
Дажынкі ў Рыбалах➔4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Археалагічны фэст➔5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 39 (3098) Год LX

Беласток, 27 верасня 2015 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# 80 ГАДОЎ ЖЫЦЦЯ І 60 ГАДОЎ ТВОРЧАЙ ПРАЦЫ

**Віктар КАБАЦ, беларускі мастак з Гайнаўкі, які нарадзіўся ў 1935 годзе ў Мінькаўцы каля Нараўкі, сёлета адзначае 80-годдзе з дня свайго нараджэння. Па гэтай прычыне Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы пад ганаровым патранатам бургамістра Гайнаўкі арганізаваў выставу жывапісу, разьбы і рысункаў Віктара Кабаца, азагалоўленую «За другім небакраем», якой адкрыццё адбылося 18 верасня ў прысутнасці шматлікіх гайнавян.**


Спадар Віктар з эскізамі да алейных прац пра Курапаты

Прыйшлі прыхільнікі мастацтва Віктара Кабаца, з'ехаліся яго сямейнікі і сябры, каб павіншаваць з юбілеем вядомага ў Гайнаўцы педагога і грамадскага дзеяча. Віктар Кабац шмат гадоў вучыў мастацтву ў І Агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы, коратка быў дырэктарам Гайнаўскага дома культуры, працаваў з моладдзю перайшоўшы на пенсію. Ладзіў мастацкія выставы ў гайнаўскіх бібліятэках, Беларускім музеі і іншых установах, арганізаваў мастацкія пленэры, займаецца прамоцыяй Белавежскай пушчы, прапагандуе неабходнасць аховы пушчанскай прыроды. Мастак многа часу адводзіць вандроўкам па Белавежскай пушчы і яе наваколлі. На многіх яго працах відаюць пушчанскія і прыпушчанскія краявіды, што было бачна на выставе і на фільме пра мастака, які дэманстраваўся ў музеі.

Я пазнаёміўся з Віктарам Кабацам яшчэ ў дзевяностых гадах. Пісаў я пра выставы ягоных прац, рэдагаваў артыкулы аб арганізаваных ім пленэрах. Выказванні Віктара Кабаца аб творчасці іншых мастакоў, на тэму аховы пушчы ці грамадскага жыцця былі надрукаваны ў дзясятках артыкулаў у нашым штотыднёвіку «Ніва». Віктар Кабац з гордасцю заяўляе, што лічыць сябе беларусам, якому вельмі важныя беларускія справы, што хвалююць яго справы аховы Белавежскай пушчы і мастацтва, што пацвердзіў падчас размовы са мной у Гайнаўскім белмузеі на дзень да адкрыцця выставы. Прыйшоў ён у белмузей, каб закончыць падрыхтоўку выставы сваіх прац у зале «Гайна». Заявіў ён, што падрыхтаваў яшчэ неспадзеўку, невялікі хепенінг, аб якім ніхто раней не ведаў апрача жонкі Галіны. Пад прымацаванай каля сцяны вялікіх памераў працай з цыкла «Курапаты» расклаў ён у маёй прысутнасці белыя палотны, а на іх паклаў свае рысункі-эскізы, якія зрабіў перад выкананнем вялікафарматных алейных прац пра Курапаты.

— Гэтыя эскізы да «Курапатаў» яшчэ нідзе не прэзентаваліся. Падчас адкрыцця выставы адбудзецца іх прэм'ерная прэзентацыя. На белых палотнах будуць стаяць тры лямпачкі, пасярэдзіне чырвоная, а па баках дзве белыя і яны будуць сімвалізаваць бел-чырвона-белы сцяг. Я вельмі моцна перажыў тое, што здарылася ў Курапатах, і многа энергіі і эмоцый уклаў у выкананне курапацкіх работ, прэзентаваных раней у белмузеі на адмысловай выставе. Цяпер таксама рашыўся на хепенінг, каб асабліва вылучыць курапацкую тэму на юбілейнай выставе, — пачаў расказ Віктар Кабац.

Над эскізамі і каменнем павісла вялікіх памераў курапацкая алейная праца «Беларуская Мадонна» з вывяай маці з сынам на руках, у якога галава прастрэлена куляй, і з бел-чырвона-белым сцяжком унізе.

— Выдатную большасць прац на выставе складаюць мае новыя работы. Я не з тых мастакоў, што тыя самыя працы паказваюць на розных выставах, дакідваючы толькі па некалькі новых работ. У мяне ад выставы да выставы, мусіць мінуць даўжэйшы час, покі я паспею выканаць новыя карціны. Тут прэзентую мастацтва па розных тэмах, — сказаў спадар Віктар.

На выставе можна было ўбачыць карціны з захадам сонца каля Семяноўскага вадасховішча, дзе спадар Віктар на сваім участку збудаваў зямлянку, якую абсталяваў па-сучаснаму і ў якой адпачывае.

— У Белавежскай пушчы і яе наваколлі лес або прыдарожныя дрэвы прыкрываюць небакрай. Гледзячы на вадаём каля Семяноўкі я многа разоў бачыў вельмі прыгожы заход сонца, што стала тэмай некалькіх прац тут прэзентаваных, — удакладніў мастак з Мінькаўкі. — На алейных карцінах відаць Белавежскую пушчу, намаляваную крыху раней, і пушчанскую прыроду падчас чатырох пор года, якую я намаляваў апошнім часам. Я жыву каля Белавежскай пушчы, якую вельмі люблю. На сваіх працах паказваў я перш за ўсё пушчанскі клімат. Апошнім часам я крыху спыніў маляванне пушчы і перайшоў на сакральныя тэмы. Намаляваў я тры працы, названыя «Падзенне анёла», якія можна ўспрыняць як, напрыклад, падзенне чалавецтва. Яны экспануюцца тут на выставе. Чарговыя мае работы тут прэзентаваныя, гэта трыпціх «Вячэрнік». Узяў я матывы з «Тайнай вячэры» і звярнуў увагу на галоўныя яе постаці. Бачым тут Хрыста, які ўжо ўстаў ад вячэры і трымае ў руках хлеб і чашу, збоку знаходзіцца Іаан Багаслоў з лямпачкай у руках, бачым Іуду Іскарыёта, які падымае з зямлі грошы. Гэта маё асабістае ўяўленне Тайнай вячэры. На прастораваай працы я паказваю Ісландыю, якую я наведаў — у цэнтральнай частцы гэтай работы паказаны кавалак гейзера. Сакральная тэма апошнім часам пачала мяне асабліва цікавіць, таму некаторыя прастаравыя працы прысвечаны гэтай тэме.

Аб'ёмна-прастаравыя кампазіцыі мастак выконваў падчас пленэраў. Спачатку ён у кантраляваны спосаб выпальваў кавалак драўніны, пасля адну частку драўніны размалёўваў, а да другой прыклейваў люстэркі, разбітае шкло, ці ўбіваў цвікі. Гэтыя работы, на якіх, між іншым, паказаны ўнутраныя перажыванні чалавека, таксама знаходзяцца на выставе ў белмузеі.

— Я таксама займаўся класічным сакральным мастацтвам. Дзве выкананыя мною ў супрацоўніцтве з украінцам мазаікі — іконы Збавіцеля і Божай Маці знаходзяцца ў галоўным іканастасе Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы. Я пісаў таксама традыцыйныя іконы. У ніжняй частцы Свята-Духаўскай царквы ў Беластоку я распісваў іканастас і напісаў там дваццаць дзве іконы. Стала мне дапамагаць жонка Галіна, каталічка з Чэнстаховы, якая, пазнаёміўшыся са мной у Гайнаўцы, заявіла, што мусіць здабыць Кабаца і здабыла мяне. Калі я заўважыў здольнасці жонкі, то выслаў яе вучыцца ў Іканапісную школу ў Бельску-Падляшскім, якой кіраваў айцец Лявонцій Тафілюк — мой школьны сябра. Такім чынам мая жонка добра навучылася пісаць праваслаўныя іконы (айцец Лявонцій пахваліў яе за вялікія здольнасці). У Педагагічным ліцэі вучыліся з намі ў адным класе Тамара Саланевіч і Шымон Раманчук (зараз архіепіскап Лодзінскі і Познаньскі Сіман), хлопец з-пад Нараўкі, як і я. У маёй вёсцы, якую мясцовыя называюць Беглюкі, жыло дзве сям'і Кабацаў і чатыры сям'і Беглюкоў. Не ведаю нават ад чаго выводзіцца афіцыйная назва вёскі Мінькаўка, — гаварыў спадар Віктар; адказваючы на пытанне наконт назвы выставы заявіў: — Калі я адзначаў 75-годдзе, у белмузеі была арганізаваная выстава маіх прац «За першым небакраем», зараз выстаўка называецца «За другім небакраем». Праз пяць гадоў будзе выстава «За трэцім небакраем», а калі скончу 90 гадоў будзе экспазіцыя «За чацвёртым небакраем», праз чарговых пяць гадоў будзе выстава «За пятым небакраем», а на сотую гадавіну жыцця планую экспазіцыю «За шостым небакраем» і за гэтым небакраем будзе яшчэ адзін дзень і адна выстава з адной карцінай.

Віктар Кабац заявіў, што яго працы прэзентаваліся на многіх выставах, знаходзяцца ў галерэях у Беластоку, Варшаве, Гродне, Празе, Берліне. Пра свае бліжэйшыя планы сказаў наступнае:

— У мяне ёсць задума паказаць на карцінах душу беларуса. Спачатку хачу паказаць беларуса каля традыцыйнай хлебнай печкі, а пасля будзе ён пераходзіць у сучаснасць. Хачу актыўна праводзіць час. Я арганізаваў многа міжнародных разьбярскіх і жывапісных пленэраў у Нараўчанскай гміне і зараз таксама адбываецца пленэр, удзельнікі якога прыбудуць на адкрыццё маёй выставы, — сказаў юбіляр, лаўрэат адной з першых ганаровых узнагарод бургамістра горада Гайнаўка «Quercus-2015».

— Віктар — вядомы ў Гайнаўцы беларускі мастак, які заангажаваўся ў дзейнасць Беларускага музея, дапамагаў іншым установам, ставіў помнікі, крыжы. Яго жыццё стала кружыцца вакол Белавежскай пушчы. Мазаіка Віктара з нацыянальнымі беларускімі сімваламі знаходзіцца над уваходам у актавую залу Гайнаўскага белліцэя, — заявіў былы настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя Васіль Сакоўскі.

— Віктар Кабац — прафесійны мастак, з прафесійнай мастацкай адукацыяй (выпускнік факультэта выяўленчага мастацтва Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні — А. М.), член Саюза польскіх мастакоў. Спадар Кабац — мастак, які адлюстроўвае рэчаіснасць у сваім уяўленні, многія работы пачынае маляваць у пушчы і канчае ў майстэрні, — сказала Агнешка Ціханюк, спецыяліст па мастацтве Гайнаўскага белмузея.

— З Віктарам Кабацам я пазнаёміўся, калі быў яшчэ вучнем Гайнаўскага белліцэя. Ён вёў сустрэчы з вучнямі і з гэтага часу ўвесь час назіраю яго вялікую актыўнасць. Спадар Віктар вядомы ў Гайнаўцы беларускі грамадскі дзеяч, член нашага белмузейнага аб'яднання, які дапамагаў арганізаваць нашы пастаянныя экспазіцыі. Зараз спадар Кабац хоча арганізаваць у нашым музеі «Тэатр жывога слова». У яго ёсць падрыхтоўка да такой дзейнасці (будучы настаўнікам вёў тэатр у Доме настаўніка ў Гайнаўцы — А. М.), — пераліччваў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

— Жывучы каля Белавежскай пушчы і часта ў ёй пабываючы, Віктар Кабац стараўся яе зразумець. Паказвае ён пушчу праз сваё індывідуальнае яе ўяўленне. Ён каларыст і экспрэсіяніст. На карціне спадара Віктара самая важная сярэдзіна яго працы, — сказаў гайнаўскі мастак Данель Грамацкі, які пасля Віктара Кабаца стаў камісарам пленэраў арганізаваных у Нараўчанскай гміне.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Галасаванне аўтобусным квітком

Гарадскі аўтобус спыняецца на прыпынку. З яго выходзяць пасажыры. Частка з іх у руках трымае аўтобусныя квіткі і перадае іх тым, хто сядае ў аўтобус. Для гарадзенцаў, якія сядаюць у аўтобус, гэтая сітуацыя не новая і добра вядомая. Яны з ахвотай бяруць квіткі, дзякуюць за іх і заходзяць у маршрутны транспарт. Ім ужо не трэба аплачваць праезду. Тыя, каму не пашанцавала і такія дармовыя квіткі ім не дасталіся, паглядаюць на пустыя сядзенні. На іх таксама часта гарадзенцы, якія пакінулі аўтобус, кладуць свае квіткі для новых пасажыраў.

Ужо каля года ў Гародні існуе такая звычка. І становіцца ўсё больш папулярнай і ўсё больш масавай. Я памятаю, як шмат гадоў таму падобнае пачынанне таксама ўзнікала. Але чамусьці тады яно не прыжылося. Ну, а зараз, здаецца, яно набывае ўсё большую папулярнасць.

Мяне вельмі зацікавіла чаму гэта так, і я вырашыў выключна для сябе разабрацца ў гэтым. Але тое, што я пачуў, падалося мне настолькі цікавым, што надумаўся падзяліцца сваімі разважаннямі.

— Чаму вы аддалі свой квіток зусім незнаёмаму чалавеку? — пачаў пытацца я ў людзей. — Ён жа вам не вярнуў нават частку грошай? У чым ваша карысць?

— Сёння я аддаў, заўтра мне дадуць, — адказвае з усмешкай сярэдніх гадоў мужчына і хуценька зыходзіць. У нас ужо даўно не любяць людзей, якія чапляюцца з пытаннямі.

— А вы ведаеце, зараз не ва ўсіх ёсць грошы, каб аплаціць праезд, — тлумачыць маладая жанчына. — У мяне суседзі працу шукаюць ужо даўно. Знайсці не могуць. Ужо і на аўтобус грошы эканомяць. А каб шукаць працу, трэба на нечым ездзіць. А тут яшчэ закон пра тунеядцаў. Як ім выкруціцца будзе, зусім не ведаю. І колькі такіх людзей ёсць?! Хай хоць на дарозе зэканомяць.

— Калі нас не любяць людзі пры ўладзе, то хоць мы павінны паважаць і шанаваць адзін другога, і як можам так і падтрымліваць, — вельмі сур'ёзна сцвярджае спартовага выгляду юнак.

Я вырашыў павярнуць размову крыху іншым бокам:

— Паслухайце, — даводжу я, — гарадскі транспарт таксама ж каштуе грошы. Таму як мы яго аплачваем, то папаўняем гарадскі бюджэт. Гэта значыць, што там з'яўляюцца грошы на нейкія праграмы для горада, у тым ліку і на паляпшэнне якасці гарадскога транспарту. Таму плаціць за праезд трэба.

— Во як павярнуў, — усміхаецца малады мужчына. — Уладу ён пашкадаваў. Не хвалюйся. Яны знойдуць, дзе нас абдзерці.

— Абдзяруць і не спытаюцца, — у адзін голас заявілі сярэдняга веку муж і жонка. — І колькі ім не давай, усё як у яму. Мы былыя ўжо прадпрымальнікі. Ведаем, што гаворым.

— А вы ведаеце колькі я зарабляю? — пытаецца маладая жанчына. — Ну то спачатку даведайцеся, а пасля скажаце, ці маю я права ўзяць квіток на праезд у незнаёмага чалавека.

Мне прыйшлося спыніць размову, бо жарсці распальваліся, і можна было папаліцца за няўдалыя пытанні. Хоць пытанні ў такой размове не маюць аніякага значэння. Значэнне маюць адказы. І гэтыя адказы паказалі ўсё. І зараз, на выбарах, якія б лічбы нам не абвясцілі, якую б усенародную падтрымку не паказалі, для мяне важнейшым будзе вось гэтае галасаванне. Галасаванне аўтобусным квітком.

Гэтае галасаванне паказвае, што людзі жывуць сваім жыццём, а ўлада сваім. Гэта там, наверсе, улада праводзіць выбары. Ну і хай сабе. Яны там прагаласуюць як трэба. Лічбамі і бюлетэнямі. А для звычайнага выбаршчыка больш важным з'яўляецца вось гэтае галасаванне аўтобусным квітком. Галасаванне, дзе ён выказвае свае адносіны да таго, што адбываецца ў яго краіне. І ўжо, не знайшоўшы спагады ад улады, шукае салідарнасці сярод блізкіх.

Я зайшоў у аўтобус і паехаў далей. На адным з прыпынкаў нейкі юнак выйшаў з аўтобуса, трымаючы ў руках квіток. Па ўсім было бачна, што ён хоча яго каму-небудзь аддаць. Але нікога не было. І тады ён не паленаваўся, заскочыў у аўтобус і паклаў квіток на пустое сядзенне.

Не ведаю, ці яго ўзрост дазваляе яму ўдзельнічаць у выбарах. Хіба што не. Але ён ужо прагаласаваў сваім аўтобусным квітком.

Прагаласаваў па ўсіх правілах нашага абсурду — датэрміновa.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Блізка, усё бліжэй

Свет пераварочваецца (у літаральным сэнсе) з ног на галаву! Вось праваслаўны беларус або каталіцкі паляк заяўляе, што пераходзіць на чужы яму ў культурным плане іслам (і адрэзваецца радыкальна ад багатых традыцый і веры сваіх бацькоў), становіцца яго гарачым неафітам. Запэўніваю вас, што гэта невыпадковыя справы! Ці можна гэтаму здзіўляцца? Можна, а нават трэба. Ад здзіўлення бяруцца фундаментальныя пытанні, якія ляжаць у аснове чалавечай ідэнтычнасці; мудрасці, ведання, самаўсведамлення. Магчымыя адказы на іх, праўдзівыя ці не, другарадныя. Вяртаючыся да канвертаваных на іслам беларусаў і палякаў, я павінен звярнуцца да манументальнай гісторыі Еўропы пяра Нормана Дэвіса, якія выдаў яе пад простым загалоўкам «Еўропа». Там ён цытуе дзіўную заяву нейкага Сальвіяна з Марселя, рымскага грамадзяніна, пра добра адукаваных і з добрых рымскіх сем'яў рымлян, якія схаваліся сярод готаў і франкаў у пошуках «рымскай чалавечнасці пасярод варвараў, таму што ўжо даўжэй яны не маглі больш мірыцца з адсутнасцю чалавечнасці пасярод рымлян». Дазвольце мне нагадаць вам, што гэтыя словы былі напісаны Сальвіянам каля 440 г. н.э. Толькі адзін год пасля гуны пад праваднiцтвам знакамітага Атылы, амаль не раздзерлі ганарыстай імперыі на кавалкі. Але яны пацярпелі поўнае паражэнне, якое, на здзіў, было ўпісана ў працяг сваёй гісторыі некалькі стагоддзяў раней, калі яны былі выгнаны з роднага ачага Кітайскай імперыяй. У пошуках свайго месца гуны паслядоўна націскалі з усходу на варварскія народы Захаду, якія, у сваю чаргу згодна логіцы наступстваў, адступалі перад імі, накіроўваючыся да межаў Рымскай імперыі. Яе перамога над варварамі Атылы была больш справай выпадку, чым ваеннай сілай. Імперыя слаўныя гады мела ўжо далёка ззаду, і пасля смерці імператара Канстанціна пачала прыкметна хіліцца да цывілізацыйнага і культурнага краху. Тым не менш, ваенны паход гунаў паскорыў працэс дэмаралізацыі Рыма, і гэта на ўсіх узроўнях чалавечай прасторы, пачынаючы ад усталяванага закону, а канчаючы на ўзмоцненым рэлігійным і грамадскім хаосе. На гэтым фоне круг культуры франкаў і готаў — варварскі, але ж разам з тым упарадкаваны і стабільны, можа здацца быць прывабным для некаторых адукаваных рымскіх грамадзян. Ці падобнымі прыкметамі кіраваліся звярнутыя ў іслам праваслаўныя беларусы і каталіцкія палякі?

Бежанства соцень тысяч, калі ўжо не мільёнаў людзей ад голаду і вайны пільна сочыцца гісторыкамі, сацыёлагамі, антраполагамі. Гэта паказвае археалагічную механіку магутнай міграцыі людзей, якой кульмінацыйная хваля пракацілася па Еўропе ў перыяд паміж трэцім і пятым стагоддзямі нашай эры. Аналогіі гэтага мы знойдзем у сучасным свеце. Міграцыя народаў заўсёды з'яўляецца вынікам многіх складаных фактараў — змены клімату, харчовага забеспячэння, мясцовай канкурэнцыі, крызісаў. Сам пачатак вандровак — як піша Дэвіс — «залежаў ад стану тонкага балансу паміж сіламі інэрцыі, «бізуна» ў выглядзе мясцовых праблем і «перніка», які быў спакусай і спадзяваннем на лепшы лёс, які чакае за гарызонтам». Хіба ж сёння інакш?

Здаецца, што так як калісьці рымская, як і цяперашняя мадэль заходняй цывілізацыі на зыходзе. Магчыма, падмацуе яе новая энергія, несеная новай хваляй іміграцыі. Ці будзе нам дадзена выпрабаванне гэтага тут і цяпер? На шчасце, працэс гістарычных змен расцягваецца ў часе, што не абазначае, што ён не пагаршае сучаснага свету, распальваючы этнічныя, рэлігійныя або светапоглядныя канфлікты. Яшчэ не адчуваем яго наступстваў праз асабістыя пакуты, бездамоўе, страх і паняверку, але гэта толькі абазначае, што наступнае пакаленне можа выпрабаваць гэта з яшчэ большай сілай.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Дэсант

Падляшша нядаўна (14-15 верасня) перажыло — як назвалі некаторыя мясцовыя СМІ — дэсант, то-бок, цэлы шэраг міністраў правеў шэраг дэманстратыўных сустрэч у Беластоку і ў глыбінцы, а ў падляшскай сталіцы засядаў урад. Сама прэм'ер-міністр Ева Копач сустрэлася ў Гайнаўцы з самаўрадаўцамі і дзеячамі мясцовых арганізацый, наведала сабор Святой Тройцы, паглядзела вытворчыя цэхі завода «Pronar» у Нарве. У Беластоку сустрэлася з дзецьмі і настаўнікамі Непублічнай пачатковай школы і гімназіі святых Кірылы і Мяфодзія. Міністр адміністрацыі і лічбавізацыі Анджэй Галіцкі ўручыў Еве Бончак-Кухарчык (віцэ-прэзідэнт горада Беластока ў 1990-1994 гг.) намінацыю на пасаду ўпаўнаважанай па справах новастворанай Грабоўскай гміны. Міністр спорту Адам Кароль паабяцаў, што ўрад выдзеліць 40 мільёнаў злотых на будову ў Беластоку спартыўна-відовішчнай залы. Міністр інфраструктуры і развіцця Марыя Васяк (у Бельску-Падляшскім), а пасля і сама прэм'ер-міністр, яшчэ раз пацвердзіла, што ў 2018-2025 гадах будзе пабудавана хуткасная дарога S19, якая спалучыць поўнач Польшчы з поўднем. Акрамя таго, старшыня Рады міністраў запэўнівала аб будаўніцтве дарогі «Via Baltica», паляпшэнні сувязей Польшчы з Літвой і працягу будаўніцтва дарогі S8 у частцы, якая злучае Беласток з Варшавай. Падчас беластоцкага пасяджэння ўрада, сярод іншых, была прынята Чыгуначная нацыянальная праграма да 2023 года, на якую мае быць прызначаных 67,5 мільярда злотых. Вось некалькі цытат з гэтага візіту, які, без сумневу, з'яўляецца часткай выбарчай кампаніі: «Падляшскае ваяводства з'яўляецца лепшым напамінам пра даўнюю Рэч Паспалітую, якой велічыня была пабудавана на мультыкультуралізме, супрацоўніцтве ўсіх тых, хто, незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання, адчувалі сябе сынамі аднoй радзімы». «Тут мы бачым большыя ці меншыя будынкі, але і прыгожае наваколле вакол гэтых хатак. Гэта такі элемент сучаснага патрыятызму». «Падляшша гэта месца, дзе мадэльна паказваем павагу сучаснай польскай дзяржавы да нацыянальных і рэлігійных меншасцей». «Менавіта гэта такі рэгіён, які ў сімвалічны спосаб трэба наведваць, калі гаворка ідзе пра талерантнасць у адносінах да імігрантаў». «Палякі павінны, нарэшце, зарабляць так, як зарабляюць на Захадзе. Рост заработнай платы з'яўляецца выклікам на працягу наступных чатырох гадоў».

Між тым, у дзень, калі ў Беластоку засядаў урад (15 верасня), двухдзённы візіт на Падляшшы пачала кандыдатка на прэм'ер-міністра ад Права і справядлівасці Беата Шыдло. Яна наведала Ломжу і Аўгустаў. У Кулешах-Касцельных яна сустрэлася з сялянамі, у Беластоку прыняла ўдзел у рэгіянальнай канвенцыі Права і справядлівасці, дзе былі абнародаваны падляшскія выбарчыя спісы ў Сейм і Сенат.

У дзень пасяджэння ўрада таксама Аб'яднаная лявіца наведала падляшскую сталіцу. Сустаршыня Твайго руху Барбара Навацкая і прэс-сакратар СЛД Дар'юш Ёнскі падтрымалі сваімі вядомымі з тэлебачання тварамі кандыдатаў з падляшскага спіска гэтай кааліцыі ў Сейм. У сваю чаргу віцэ-прэм'ер і міністр эканомікі, старшыня ПСЛ Януш Пехацінскі, неўзабаве пасля канферэнцыі прэм'ер-міністр пасля пасяджэння ўрада, спрыяў падляшскім кандыдатам ад сваёй партыі ў абедзве палаты парламента.

Вернемся да наведання Падляшша прэм'ер-міністр Копач і яе ўрадам. Гэта была такая шостая выязная сустрэча, пасля выездаў, між іншым, у Лодзь, Катавіцы, Гданьск і Вроцлаў. Не абышлося без — дыпламатычна сказаўшы — брыдкіх неспадзяванак. Са школы святых Кірылы і Мяфодзія быў выдвараны падляшскім ваяводам Анджэем Меерам дэпутат Сейма Аляксандр Сасна, хаця ён член Брацтва святых Кірылы і Мяфодзія і сузаснавальнік школы. Палічылі яго тут персонай нон-грата. Такія былі, як паведамлялася, дамовы школы з канцылярыяй прэм'ер-міністра. Журналістаў таксама выдварылі. Прысутнічала толькі адна камера — урадавая, а справаздачу з сустрэчы даваў Інфармацыйны ўрадавы цэнтр. Цікавыя падрабязнасці гэтага здарэння можна знайсці на сайце Радыё Рацыя. Праграму візіту старшыні Рады Міністраў і яе ўрада адмянялі і змянялі да апошняга моманту, а журналісты і фатарэпарцёры мелі велізарныя праблемы з абслугай візіту. Нейкае высвятленне гэтага хаосу даў міністр замежных спраў Гжэгаж Схетына падчас сустрэчы з падляшскімі прадпрымальнікамі ў беластоцкай Гандлёва-прамысловай палаце (у рамках «дэсанту»): «Іншыя нашы выязныя сустрэчы [не так як гэтая — М. Х.] былі задоўга да гэтага запланаваны і прадуманы».

Пра сустрэчу міністра Схетыны — праз тыдзень.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Кірмаш
## з Падляшшам у куце (ч.2)

**— Адсутнасць рэкламных матэрыялаў на беларускай мове на стэндзе Падляшша падчас кірмашу Еўрарэгіёна Нёман з'яўляецца вельмі вялікай памылкай. Увогуле бачыцца недахоп каардынацыі і нязздольнасць падрыхтаваць нашу прэзентацыю, — да такіх высноў дайшоў падчас знаходжання ў Гродне Лех Пілецкі, старшыня Падляшскага клуба бізнесу і заадно ганаровы консул Малдовы ў Беластоку. Ён прымаў актыўны ўдзел у суправаджальным кірмашу Міжнародным інвестыцыйным форуме «Гродна на скрыжаванні межаў», у тым ліку ў сустрэчы прадпрымальнікаў са старшынёй Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Уладзімірам Краўцовым.**



Прывітанне па-падляшску. «Вэртэп»

Ён прыняў удзел у адной з некалькіх панэльных дыскусій форуму па інвестыцыях для Гродзенскай вобласці. — З беларускага боку я адчуў халодрае стаўленне да Польшчы. Нават нас не прыкмецілі. У ходзе сустрэчы са спадаром Краўцовым сарганізавалі паказ і падпісвалі пагадненні аб супрацоўніцтве Гродна з Друскенікамі і, не маючай нічога агульнага з Еўрарэгіёнам Нёман, кітайскай правінцыяй Ганьсу.

Як мы ўжо згадвалі на мінулым тыдні, на працягу сямнаццатага Рэспубліканскага кірмашу Еўрарэгіёна Нёман паказваліся на больш за сто стэндах прадпрыемствы і арганізацыі толькі з Гродзеншчыны. Стэндаў прадпрымальнікаў з Падляшша і іншых рэгіёнаў Еўрарэгіёна Нёман (з Літвы і Калінінградскай вобласці) не было. Адзіны літоўскі стэнд, дзе можна было б пацешыцца мясцовай кухняй, штурхнуты быў за межы асноўнай часткі Цэнтральнага спартыўнага комплексу «Нёман», дзе праводзіўся кірмаш, а садзейнічаючае Падляшшу — у кут аднаго з калідораў насупраць кітайскага, на якім прапанаваліся, у прыватнасці, спецыі і харчовыя алеі. Цікава, што паралельна з двухдзённым (11-12 верасня) Кірмашом і раскіданым па горадзе форумам, адбывалася ў Гродне прамоцыя Паморскагага ваяводства і дэбаты аб супрацоўніцтве гэтага рэгіёна з Гродзеншчынай. Як напісалі ў праграме арганізатары, прадугледжвалася ў час мерапрыемства выступленне прэзідэнта горада Беластока Тадэвуша Трускаляскага, які меў расказаць аб супрацоўніцтве падляшскай сталіцы з Гроднам. Канчаткова, ні ў гэтай прамоцыі, ані на кірмашы і форуме Еўрарэгіёна «Нёман» (таксама тут ён быў першапачаткова заяўлены) прэзідэнта Трускаляскага не было.

## Беларусь — яна непапулярная

«Ніва» прыняла ўдзел у панэльнай дыскусіі Форуму, прысвечанай турызму. З Падляшша прынялі ў ёй удзел кіраўнікі толькі трох турыстычных кампаній — з Беластока: «Bial-tur» і «Junior» і з Аўгустава — «Szot». Была таксама прадстаўлена Падляшская рэгіянальная турыстычная арганізацыя. Адкрываючы яе, Міхаіл Кажура з упраўлення спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама падкрэсліў:

— Самае галоўнае, абмен ведамі паміж намі. Гэта самае каштоўнае ў прыгранічным супрацоўніцтве ў турыстычнай галіне.

Мечыслаў Жукоўскі, генеральны дырэктар «Bial-tur» прызнаўся ў размове з «Нівай»:

— Паміж намі і Беларуссю няма якіх-небудзь сур'ёзных праблем, але многія дробныя пытанні, якія трэба вырашыць, асабліва датычныя віз. Калі хто выбіраецца ў Беларусь, павінен планаваць гэта наперад з некаторым апярэджаннем. Як хтосьці з'яўляецца з дня на дзень, што хацеў бы паехаць, напрыклад, якраз у Гродна толькі на адзін дзень, ёсць праблема, таму што не паедзе альбо прыйдзецца яму многа плаціць за візу-экспрэс. Гэта, аднак, не залежыць ад турыстычнай індустрыі ані ў нас, ані ў Беларусі. З нашай індустрыяй на беларускім баку мы не маем сур'ёзных праблем, калі хочам сарганізаваць некалькі турыстычных праграм у іх.

Дадаў:

— На жаль, кірунак Беларусь не карыстаецца папулярнасцю ў турыстычным плане. Я думаю, што сярод палякаў жывуць некаторыя дрэнныя і няправільныя стэрэатыпы пра Беларусь і, такім чынам, нейкі насцярожаны падыход да гэтых паездак. Мы спрабуем пераадолець іх, арганізуючы, напрыклад, паездкі ў так званыя «крэсовыя» месцы, нацыянальныя паркі, у ваколіцы Прыпяці, у Віцебск слядамі Марка Шагала.

З сваю чаргу Яўген Лаўранюк, дырэктар турыстычнага агенцтва «Юніёр» пераконваў нас:

— Беларусь не вельмі папулярная ў турыстычным плане краіна, калі гаворка пра масавы турызм, экскурсіі. Існуе шмат невуцтва аб яе турыстычных каштоўнасцях. На самой справе, Беларусь у гэтым кірунку толькі адкрываецца. Узнікаюць новыя гатэлі, адкрываюцца новыя, цікавыя месцы для адкрыцця польскімі турыстамі. З году ў год павялічваецца лік польскіх турыстаў, якія наведваюць гэтую краіну, хоць не ідзе яшчэ ў сотні тысяч кожны год. У беларускім напрамку турызм у асноўным сентыментальны: Брэст і Гродна, Мінск. Большасць нашых наведвальнікаў пабывала ў Гродне, Міры, Навагрудку і Нясвіжы. На Брэстчыне гэта Косава-Палескае, Пружаны, Ружана, Картуз-Бяроза. Значыць, у месцы, звязаныя з гістарычнымі падзеямі.

Спасылаючыся на адсутнасць стэндаў падляшскіх турыстычных кампаній на гродзенскім кірмашы, дырэктар Лаўранюк сказаў:

— Мы мусім выбіраць, таму што гэтая форма ўдзелу ў кірмашах звязана з выдаткамі. Кожны год у нас ёсць стэнд на турыстычным кірмашы ў Мінску. У гэтым годзе мы таксама выбралі. Сам Мінск гэта двухмільённы кліент і арганізуюцца там нацыянальныя кірмашы, прыязджае туды ўся Беларусь.

Прызнаўся:

— Рэкламныя матэрыялы і прапановы ў нас ёсць на гэты рынак на рускай мове. З прадпрыемствамі і партнёрамі ў Беларусі мы звязваемся таксама на рускай мове. У нас ёсць адзін партнёр, адна кампанія, з якой мы размаўляем, перапісваемся на беларускай мове. Гэта, аднак, рэдка сустракаецца ў Беларусі.

## Мінскія планы

У турыстычнай панэльнай дыскусіі Форуму таксама прыняла ўдзел з польскага боку Эдыта Камінская, выконваючая абавязкі дырэктара бюро прасоўвання і турызму ў беластоцкай Гарадской управе:

— Як прадстаўнік муніцыпальнага бюро ў Беластоку на дадзены момант я толькі гляджу і слухаю прэзентацыі і абмеркаванні. Як установа мы на Кірмашы і Форуме ўпершыню. Хочам разведаць магчымасці супрацоўніцтва, даведацца, якія тут з'яўляюцца праекты, у якіх мы маглі б удзельнічаць. Цяжка было знайсці любую інфармацыю пра гэтую падзею. Быў момант, калі ў праграме быў абвешчаны ўдзел прэзідэнта Беластока, хоць яго ніхто не паведамляў аб удзеле.

Беластоцкая Гарадская ўправа будзе прамавацца ў другой палове кастрычніка на турыстычным кірмашы ў Мінску разам з падляшскімі кампаніямі ў гэтай галіне:

— Мы таксама плануем арганізаваць у Мінску нашу гаспадарчую місію. У мінулым годзе была такая шматгалінавая місія з Падляшша і Люблінщчыны, арганізаваная нашай установай разам з Падляшскім фондам рэгіянальнага развіцця. Цяпер хочам, каб удзельнічалі ў ёй прадпрымальнікі толькі ад нас.

Рэкламныя матэрыялы Гарадской управы ў Беластоку, выпушчаныя на беларускай мове, не былі на падляшскім стэндзе выкладзены, хоць гатоўнасць прадставіць іх муніцыпальныя чыноўнікі выказалі. З іншага боку, напрыклад, дэталёвыя прапановы фірмы «Bial-tur» з'явіліся толькі праз некалькі гадзін пасля адкрыцця кірмашу. Тым не менш, былі польскія, англійскія і рускія, таму што — як сказаў нам гендырэктар Жукоўскі — накіраваны яны на ўвесь усходні рынак.

## Беларускі — да папраўкі

Караліна Шыманская-Скаўронак, в.а. дырэктара Падляшскага турыстычнай рэгіянальнай арганізацыі (у асноўным аб'ядноўвае турфірмы і ўладальнікаў гасцініц) падсумавала ў размове з «Нівай» свой удзел у Форуме і Кірмашы:

— Самая цікавая прапанова, якую мы пачулі, гэта запрашэнне ўдзельнічаць у наступным годзе ў гродзенскім кірмашы ад спадара Міхаіла Кажуры, таму што будуць яны накіраваны на турызм. Тады мы змаглі б увесці шырокую турыстычную прапанову. У гэтым годзе ўжо самы папулярны стандарт, калі гаворка пра турызм на Падляшшы, вельмі папулярны сярод беларускіх партнёраў — Аўгустоўскі канал і Белавежская пушча, значыць, прадукты вельмі вядомыя на беларускім рынку. З беларускага боку прагучала гатоўнасць супрацоўнічаць з Падляшшам у новай еўрасаюзнай фінансавай перспектыве, у прыватнасці, у кантэксце трансгранічнай праграмы «Польшча-Беларусь-Украіна» і больш у напрамку актыўнага турызму (падарожжа на байдарках, язда на роварах, і г.д.).

Падкрэсліла:

— Мы павінны пашырыць нашу прапанову ў Беларусь як мага шырэй. Акрамя гэтага таксама на культурныя прапановы.

Таксама прызналася:

— На жаль, у нас не было на Кірмашы і Форуме рэкламных матэрыялаў на беларускай мове. Фірмы, згуртаваныя ў нашай арганізацыі, іх не маюць. Выдадзены брашур на рускай мове хапае на некалькі іншых мерапрыемстваў. У галіне турызму Падляшша павінна больш увагі накіроўваць на Беларусь, таксама калі гаворка пра рэкламныя матэрыялы на беларускай мове. Гэты элемент — да папраўкі.

Без сумневу, падляшскі гонар ратавала выстава, суправаджаючая Кірмаш і Форум, прысвечаная Юзафу Ядкоўскаму, падрыхтаваная Падляшскім музеем з табліцамі (фатаграфіі і апісанне) на польскай і... беларускай мовах. Расставілі яе ля ўвахода ў выставачныя часткі Цэнтральнага спартыўнага комплексу, на месцы, якое кідалася ў вочы. Дырэктар музея Анджэй Ляхоўскі:

— Пра гэтую выставу мы з калегамі з Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея размаўлялі даўно. Перададзім яе ім бестэрмінова. Юзаф Ядкоўскі — заснавальнік гродзенскага музея, рэстаўратар помнікаў былога Беластоцкага ваяводства ў міжваенны перыяд, з'яўляецца менавіта адным са звёнаў паміж Падляшшам і Гродзеншчынай. Ён праводзіў даследаванні ў Гродне і на Беласточчыне, напрыклад, у Суражы. Быў ён піянерам музейнай справы гэтых зямель, але і выдатным нумізматыкам. Гродзенскі музей культывуе памяць пра яго. Мае ў сваёй калекцыі многа памятак аб ім. Мы таксама лічым сябе ягонымі спадчыннікамі.

Пры нагодзе візіту ў Гродна дырэктар Ляхоўскі правёў падрабязныя абмеркаванні па другой частцы выставы, якая адкрыецца ў снежні ў Падляшскім музеі — пра вырабы шклозавода «Нёман», былога «Штолле», у Бярозаўцы каля Ліды:

— Гэта проста фантастычнае шкло, выдатны дызайн. Запаўняла каля пяці адсоткаў рынку шкла ў хатніх гаспадарках ІІ Рэчы Паспалітай, карысталася вялікай папулярнасцю. У гэты раз мы хочам паказаць пасляваенную вытворчасць гэтай гуты, як «каранацыйны сервіз Леаніда Брэжнева», г.зн. шкло з выразанымі партрэтамі былога генеральнага сакратара ЦК КПСС, але і чорную кераміку, аналагічную той, якая ў нас маецца ў Чорнай-Беластоцкай.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Як і належыць, пасля багаслужбы ў мясцовай царкве ў нядзельку папоўдні адбыліся сёлетнія «Беларускія дажынкі» ў Рыбалах. Пасвяцілі вялікі дажынкавы вянок і спецыяльна для выпадку выпечаны хлеб перанеслі адсюль і ў карагодзе на плошчу побач з Музеем матэрыяльнай культуры «Бацькаўшчына», заснаваным у 2009 годзе тутэйшым святаром, настаяцелем айцом мітрафорным Рыгорам Сасной, што служыў літургію разам з айцом Канстанцінам Бандаруком. На сцэне выступіла некалькі калектываў з ансамблем з рыбалаўскага Вясковага дома культуры (ВДК) у пачатку. І тут — як у апошні час і на іншых фэстах — ужо адчувалася выбарчая кампанія.**



# ПЛЁН-КАПА, ПЛЁН

Пасля літургіі (13 верасня), перад царквой святых Кузьмы і Дзям'яна айцец Рыгор Сасна звярнуўся да парафіянаў і гасцей, спасылаючыся на свята ўраджаю:

— Год быў цяжкі, але ж магло быць і горш.

Затым ён перадаў бохан хлеба бургамістру Заблудува Адаму Таманку да падзялення з вернікамі. Пасля бургамістр падзяліўся хлебам таксама з удзельнікамі дажынкавай забавы на прымузейнай плошчы. Раней сказаў:

— Я хачу, каб гэты хлеб заўсёды гасцяваў на нашых сталах, каб яго заўжды хапала. Гэты год з'яўляецца цяжкім годам для сялян, для многіх нашых сем'яў. Але давайце цешыцца тым, што ў нас ёсць.

Васіль Сегень, віцэ-старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ было суарганізатарам свята ўраджаю з ВДК), у сваю чаргу падкрэсліў:

— Зямля не толькі багатая збожжам, бульбай, садавіной, агароднінай і іншымі сваімі пладамі. Яна багата таксам людзьмі. (...). Як адзначыў у царкве паважаны айцец Кастусь Бандарук, не толькі хлебам жыве чалавек. Як вядома, чалавек гэта адзінства плоці і духу. Гэта матэрыяльнае і духоўнае.

На свяце ў Рыбалах прысутнічала, сярод іншых, Альжбета Філіповіч, дырэктар дэпартамента развіцця сельскай тэрыторыі Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, якая зачытала ліст ад падляшскага маршалка Мечыслава Башко і члена праўлення Ежы Ляшчынскага (абодва з ПСЛ, і абодва кандыдаты ў дэпутаты Сейма). Адзначылі ў ім, што варта культываваць дажынкавы абрад і перадаць яго будучым пакаленням, што падляшская сельская гаспадарка па-ранейшаму змяшчаецца ў нацыянальным авангардзе, і новыя выклікі стаяць перад ёй у сувязі з новай фінансавай перспектывай ЕС, што павінна ўмацаваць яе пазіцыю ў Еўропе. У сёлетнім свяце ўраджаю старастамі дажынак, арганізаваных у Рыбалах ад дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя, была пара, якая толькі што пажанілася на тыдзень раней — Анета і Марк Сяргеюкі. Яны жывуць у Рыбалах. Самі гаспадаркі яны не маюць. Яна працуе ў мясцовай краме, ён — на дзвюхтысячагектарнай гаспадарцы ў Тыльвіцы, дзе вырошчваюць ячмень, авёс, пшаніцу, кукурузу, гарчыцу. Марк Сяргеюк:

— Засуха адчувальная. На гаспадарцы, дзе я працую, страты складаюць каля дваццаці адсоткаў. Мы надалей іх ацэньваем і рыхтуем заявы для кампенсацыі.

Анета Сяргеюк:

— Мы кожны год на свяце ўраджаю, я спяваю з дзяўчатамі ў калектыве «Росы», што пры ВДК. На гэты раз я не магла падрыхтавацца з імі да выступлення тут, таму што я пасля вяселля і не было часу. З Маркам мы пазнаёміліся тут. Ён з калёніі Рыбалы, і я адсюль, з вёскі. Мы знаёмы сем гадоў.

Марк Сяргеюк:

— А наконт дзяцей, яшчэ не ведаем калі, мабыць, вясной падумаем.

Яны абое ўпэўнены:

— Нікуды мы адсюль не з'едзем. Застанемся жыць у Рыбалах. Самае галоўнае, у нас ёсць праца.






Аляксандр Сасна (стаіць) дзеліцца хлебам з Яраславам Матвеюком

Мясцовыя земляробы са шкадаваннем прызналіся:

— Удалося сабраць толькі першы плён, скасіць траву. Другога і трэцяга пакосу не было. Высахла кукуруза. Цяпер трэба будзе думаць, чым пракарміць жывёлу.

Пастаянныя ўдзельнікі свята ўраджаю ў Рыбалах пагадзіліся:

— Кожны год выступаюць іншыя калектывы і заўсёды добрае надвор'е. Так ёсць і ў гэты раз.

Яшчэ да пачатку дажынкавай забавы на арэлях за кулісамі гулялі дзеці ў беларускіх касцюмах, у тым ліку дзве дзяўчынкі, дочкі Кацярыны Сапылы. Выступаюць яны ў дзіцячым калектыве, што працуе пры рыбалаўскім ВДК:

— Мы не з'яўляемся беларусамі, праваслаўнымі. Старэйшую дачку да калектыву прыцягнула аднакласніца. Вельмі ёй там спадабалася, бо сапраўды любіць спяваць і беларускую мову вывучае хутка, без якіх-небудзь ліսткоў, дастаткова ёй рэпетыцыі. Пастаянна жывем у Козліках. Прывожу дзяўчатак на рэпетыцыі сюды, у Рыбалы, і ў школу ў Заблудаў. На жаль, дзеці тут не маюць ніякай іншай забавы, дадатковых заняткаў па-за школай.

На плошчы, за лаўкамі гледачоў, можа было набыць беларускія спеўнікі, у тым ліку два тамы песень, сабраных на Сакольшчыне, у іх аўтара — Сцяпана Копы, ураджэнца Малінніка:

— Вельмі шмат на нашай тэрыторыі беларускіх дажынкавых песень. Ёсць звязаныя з напружанай працай на полі, калі людзі прасілі Бога, каб сонца, нарэшце, зайшло, каб можна было хутчэй адпачыць. Многія песні звязаныя з візітам у гаспадара пасля завяршэння працы, дзе добры гаспадар запрашаў у гасціну. У песенніку Гарадоцкай зямлі я запісаў іх сем. У двух тамах песень з Сакольшчыны іх таксама цікавыя. У першым томе сабраў я іх восем, у другім шэсць. І іх змест і загалоўкі падобныя: «Дажалі жыта» ці «Дажалі жытка», але адрозніваюцца, перш за ўсё, мелодыяй, але і шэрагам строф. Ёсць такія ў дзве страфы, але і ў восем, як тая з вёскі Міленкаўцы, што пачынаецца «Дажалі жыта / аж да адлогу./ Падзякуйма мы/ Пані і Богу», з паўтараным зваротам пасля кожнай страфы: «Плён-копа, плён» і забаўнымі фразамі як гэтая: «Дажалі жыта / Аж да дарогі. / А ў нашай пані / Крывыя ногі».

Нельга было не заўважыць прысутнасці на свяце ўраджаю ў Рыбалах кандыдатаў у дэпутаты: Аляксандра Сасны (сына бацюшкі Рыгора і матушкі Антаніны), які балатуецца ў Сейм з падляшскага спіска Аб'яднанай лявіцы і Яраслава Матвеюка, які стараецца за месца ў парламенце з падляшскага спіска Польскай сялянскай партыі (ПСЛ). Кандыдат Сасна дажынкавым хлебам падзяліўся на вачах у гледачоў са сваім сапернікам. Сярод сапраўдных немузычных атракцыёнаў была віктарына пра Рыбалы. Не кожны з мясцовых жыхароў, асабліва маладых, ведаў адказ, што брукаванку на асфальтавае палатно замянілі тут ужо ў 1967 годзе, пажарнае дэпо было пастаўлена ў сярэдзіне 60-х гадоў, легендарная група «Хлопцы-рыбалоўцы» была заснавана ў 1982 годзе, і яе першым інструктарам быў Пётр Нявінскі, а Вясковы дом культуры дзейнічае ажно з 1978 года.

На сцэне, перад якой пераканаўча прэзентаваліся плады сельскагаспадарчых культур і стаялі праўдзівыя снапы пшаніцы, паявіліся, апрача калектываў з ВДК, «Капэла падляшская» і «Оморфос» з Сямятыч, «Крыніца» і «Калінка» з Беластока ды «Маланка» з Бельска-Падляшскага. Дзіцячая група ВДК ужо ў пачатку мерапрыемства парывала да забавы, энергічна спяваючы песню «Бульба». «Спецыяльным госцем» быў гурт «Радзімічы» з Мінска, кіраўніком якога з'яўляецца Уладзімір Ліпскі. Сябры ансамбля «Радзімічы» з пятнаццаці чалавек, існуючага ўжо 35 гадоў, былі аднадушныя:

— Мы тут як сярод сваіх і хочам сюды часцей прыязджаць, але на Падляшшы мы не ў першы раз. Я адчуваю, што тут, на такіх беларускіх мерапрыемствах, людзі цешацца больш, больш інтэгруюцца, гуляюць, чым у нас. Больш аб'ядноўваюцца вакол сваёй мовы і культуры.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# XII Археалагічны фэст каля Збуча

Штогадовы археалагічны фэст на гарадзішчы каля Збуча стаў ужо візітнай карткай Чыжоўскай гміны і Гайнаўскага павета. Прыязджаюць сюды айчынныя і замежныя турысты па дарозе ў Белавежскую пушчу. 13 верасня на збуцкім гарадзішчы адбыўся чарговы, XII Археалагічны фэст, падчас якога мясцовае насельніцтва і прыезджых чакала многа атракцыёнаў. У іх ліку змаганні сярэднявечных ваяроў і прэзентацыя звычайнага жыцця ў даўніх часах у выкананні груп гістарычных рэканструкцый. Выступілі таксама вакальна-музычныя калектывы, можна было купіць традыцыйнае харчаванне, стылізаваныя на далёкае мінулае памяткі і сучасныя сувеніры. Наймалодшыя гулялі ў гарадку для дзетак, прымалі ўдзел у конкурсах і сачылі за ўсім, што адбывалася паміж насыпамі гарадзішча, якое археолагі датуюць на IX-X стагоддзі. Фэст быў удалым урокам гісторыі для ўсіх наведвальнікаў збуцкага фэсту.

На археалагічны фэст прыбылі госці — паслы Сейма РП, ваяводскія, павятовыя і гмінныя радныя, кіраўнікі гмінных самаўрадаў і самаўрадаўцы. Мерапрыемства адкрыў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк — арганізатар фэсту разам з Гмінным асяродкам культуры ў Чыжах.

— Ужо дванаццаты раз арганізуем археалагічны фэст у рамках Еўрапейскіх дзён спадчыны. Паказваем змаганне ваяроў і жыццё ў сярэднявеччы, прапануем іншыя атракцыёны. Не забываем пра беларускі характар нашых зямель і таму на сцэне так многа беларускага рэпертуару, — сказаў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк.

Удзельнікі фэсту цікавіліся працай рэканструкцыйных груп, знаёміліся з жыццём у эпоху сярэднявечча. Рэканструктары паказвалі біжутэрыю і спосаб яе вырабу, пяклі сярэднявечныя стравы, сушылі зёлкі. Можна было паспрабаваць пісаць гусіным пяром і паглядзець як у мінулым выраблялі паперу, тканіны, гаршкі, як выплаўлялі жалеза, з якога выконвалі, між іншым, рыцарскую зброю. Штогод збуцкі фэст наведвае Станіслаў Мяжвінскі, які ў Гайнаўцы арганізаваў Музей кавальскага і слесарскага рамества. Ён і яго памочнікі паказалі спосаб выплаўкі жалеза з руды і выконвання кавальскіх вырабаў.

— Мы хадзілі паміж месцамі, дзе адпачываюць славянскія ваяры, жанчыны рыхтуюць харчаванне і выконваецца папера даўнім спосабам. Нашым дзецям цікава паглядзець жыццё ў мінулым. Можа купім нейкія сувеніры, — заявіла спадарыня Анна з Гайнаўкі, якая прыехала на фэст разам з сям'ёй.

— Мае сыны цікавяцца зброяй і вопраткай рыцараў, жонцы цікава паглядзець падрыхтоўку харчавання паводле сярэднявечных рэцэптаў, а я чакаю абароны і захопу гарадзішча, збудаванага з высокіх штыкетаў. Мы прыязджалі і ў мінулых гадах. Тут многа атракцыёнаў і, прыемна праводзячы час, вучымся гісторыі, — сказаў Юры з Гайнаўкі.

На фэст прыбыло многа сем'яў з дзеткамі, якім цікавымі былі гістарычныя рэканструкцыі. Хлопцы ахвотна знаёміліся з сярэднявечнай зброяй.

— Асноўная наша зброя — мячы, дзіды, кальчугі, шлемы, шчыты. У раннім сярэднявеччы рыцары ахвотна карысталіся лукамі. Сёння таксама можна пастраляць з лука, — заявіў член рэканструкцыйнай групы.

Пасля сярэднявечнае войска сабралася каля сцэны, каб паказаць індывідуальныя ўмеласці ваяроў. Другі выступ рэканструкцыйных груп адбыўся ў кутку гарадзішча, дзе чыжоўскімі пажарнікамі было зроблена міні-гарадзішча, якое пасля мела загарэцца. Перад пачаткам абароны гарадзішча пажарнікі пад'ехалі на пажарнай машыне, каб можна было зручна тушыць пажар. Адны ваяры наступалі, другія абаранялі гарадзішча. Пачалося лупцаванне мячамі па шчытах, выкананых з фанеры. Калі аказалася, што гарадзішча нельга здабыць праз вароты, наступ адбыўся з другога боку, ламаўся абарончы плот і загарэлася салома ў сярэдзіне гарадзішча. Некаторыя ваяры прыкідваліся, што ляжаць нежывыя ў палаючым гарадзішчы.



■ Калі аказалася, што гарадзішча нельга здабыць праз вароты, наступ адбыўся з другога боку. У выніку быў зламаны абарончы плот і загарэлася салома ў сярэдзіне гарадзішча

■ Наведвальнікам прапанавалася купляць біжутэрыю і ўпрыгожанні, стылізаваныя на далёкае мінулае



— Мы толькі часу мучыліся, каб збудаваць гарадзішча, а яны так хутка яго паламалі, — гаварылі чыжоўскія пажарнікі.

Калі абарона была цалкам зламаная і гарадзішча было здабытае, рэканструкцыйныя групы пайшлі паабедаць. Перад вечарам адбылося змаганне ваяроў у адкрытым полі.

Некалькі гадоў раскопкі на гарадзішчы каля Збуча праводзіў археолаг Інстытута археалогіі і этналогіі Польскай акадэміі навук Дар'юш Краснадэмбскі. На месцы насыпу былі выяўлены стоўб, які мог быць часткай брамы, і шкілеты людзей пахаваных прыблізна ў XVII стагоддзі. У выніку раскопак было акрэслена, што звонку насыпу быў вялікі роў з вадой, выкананы дзеля лепшай абароны. Падчас яшчэ ранейшых раскопак былі знойдзены шкілеты людзей, якія жылі тут прыблізна ў XIV-XV стагоддзях. Археолагі мяркуюць, што збуцкае гарадзішча было збудаванае ў IX-X стагоддзях. Паявіліся планы рэканструкцыі брамы, часткі насыпу і абарончай агарожы, але не ўдалося прыцягнуць сродкаў на рэалізацыю гэтай задумы.

— Сёлета паказалі мы змаганне ваяроў у адкрытым полі і абарону гарадзішча. У сувязі з сотай гадавінай бежанства прэзентуецца выстава пра бежанства, а коннікі выступяць пераапранутыя за казакоў, — сказаў дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк.

Паколькі Збуч распаложаны прыблізна ў палове дарогі паміж Гайнаўкай і Бельскам-Падляшскім, на фэст прыехала многа жыхароў абодвух гарадоў. Фэст быў добрай нагодай для сустрэч з сябрамі, знаёмымі.

— Мой бацька калісьці на гарадзішчы абрабляў зямлю. Пасля не дазволілі араць, можна было толькі пасвіць кароў, — сказала жанчына, якая цяпер жыве ў Гайнаўцы.

Археалагічны фэст доўжыўся адзінаццаць гадзін (ад 11 да 22 гадз.). Выступіла многа музычных калектываў. Музычная частка спынялася, калі адбываліся змаганні ваяроў і конкурсы. Ужо традыцыйна ўдзельнікі фэсту падчас конкурсных спаборніцтваў кідалі на адлегласць хамутом, укідвалі ў драўляны цэбрык падкову. Перад публікай выступілі вучні Комплексу школ у Чыжах і яго выпускнікі, Хор леснікоў з Белавежы, калектыў «Луна» з Парцава, «Вэрвачкі» з Орлі. Заспявалі «Жаваранкі» з Махнатага, «Незабудкі» з Курашава, «Верасы» з Чыжоў, «Ручаёк» з Белавежы, «Гармонь» з Ласінкі, «Струмок» з Дубіч-Царкоўных, калектыў з Кляшчэляў, «Калінка» з Залук і «Чыжавяне» з Чыжоў.

— Мы выступаем тут перад сваёй публікай. Старэйшым цікава паслухаць нашы песні і паглядзець выступы калектываў. Дзеткам і моладзі цікава паглядзець як у мінулым жылося на гэтай зямлі, — сказала кіраўнік «Незабудак» з Курашава Ніна Грыгарук.

— Сёлета пашырана колькасць атракцыёнаў археалагічнага фэсту і таму сабралася больш людзей, чым у мінулым годзе. Яшчэ больш моладзі збіраецца вечарам, калі выступаюць маладзёжныя гурты, — сказала чыжоўская бібліятэкарка Іаанна Белавежац.

Каб паглядзець умеласці коннікаў з Беластока, пераапранутых за казакоў, людзі ўваходзілі на насып гарадзішча або выходзілі за гарадзішча. Паміж паказамі ваяры і асобы з публікі стралялі з лука. У канцы фэсту гучала музыка ў большай ступені накіраваная да моладзі — выступілі гурты «Сказка» і «Зорка» з Беластока ды «Метро» з Гайнаўкі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## „Ніва" ў Нараўчанскай гміне

„Ніва" — наш найлепшы прыяцель. Яе трэба чытаць і шанаваць. Я, солтыс Новага Ляўкова, пацікавіўся, як зараз чытаюць „Ніву" у маім і ў суседніх салэцтвах Нараўчанскай гміны. У Новым Ляўкове чытае яе больш-менш пастаянна сямнаццаць чалавек. Мала жыхароў чытае яе ў Семяноўцы, Міклашэве (адзін жыхар), Лешуках (два-тры жыхары), Міхнаўцы, Старым Ляўкове (два жыхары), Ахрымах (дзве жыхаркі), Тарнопалі (адна жыхарка), Нараўцы, Свінароях (адна жыхарка) і ў Плянце (два жыхары).

Усе экземпляры „Нівы" № 35, 36 і 37, якія былі ў продажы ў краме ГС і на пошце ў Нараўцы, купілі. Іх кожны тыдзень прывозілі 9-10 экземпляраў. Пяць экземпляраў 37 нумара можна было купіць у краме ГС каля скрыжавання вуліц Міцкевіча і Гайнаўскай і два на пошце. На пошце „Ніву" пастаянна купляе ніўскі карэспандэнт Мікалай Варанецкі з Альхоўкі. Тут купляюць беларускі штотыднёвік мясцовы Комплекс школ.

Пяць экземпляраў „Нівы" № 37 купілі Валянціна Самойлік з Плянты, Валянціна Ігнацюк, Зіна і Люцына Садоўскія, Эва Дзеніс ды Вітальд і Вольга Скепкі — усе яны з Новага Ляўкова.

Варта дадаць, што беларускі штотыднёвік ахвотна купляюць і чытаюць тады, калі ёсць у ім артыкулы і допісы пра жыхароў вёсак Нараўчанскай гміны або бліжэйшых ад яе гмін — Міхалоўскай, Белавежскай, Гайнаўскай і Нарваўскай.

Пра „Ніву" пытаюць у новаляўкоўскага солтыса, калі той ці іншы жыхар Нараўчанскай гміны даведаецца ад сваіх знаёмых, што пра яго напісалі пару тыдняў таму. Я меў у сябе экземпляры „Нівы", пра якія апошнім часам прасілі мяне Янка Драўноўскі з Міклашэва і Ірына Лаўрашук з Новага Ляўкова. І за гэта яны былі вельмі ўдзячны солтысу. А мне было прыемна, што яны чытаюць родную газету і што яе зберагаюць для памяці.

## Па гарачых слядах

У Супраслі па вуліцы Пілсудскага стаяць два аўтобусныя прыпынкі з прыстрэшкамі транспартных фірм ПКС, Беластоцкая гарадская камунікацыя і „Voyager" — на пачатку і ў канцы гэтай вуліцы. Абодва яны патрабуюць аднаўлення.

Пад дашкам побач Гарадской управы (ГУ) і Саскага агарода хуліганы выбілі адну з бакавых шыб, а другую, цэлую, памалявалі крымзолямі. З задняй сценкі пазрывалі абвесткі ГУ. Пад лавачкай і перад ёю ляжыць многа шалупіння ад сланечнікавых семечак.

У прыстрэшку пад чырвонай металадахоўкай каля скрыжавання вуліц Пілсудскага, Новы Свет і Школьнай на задняй сценцы відаць намаляваныя непрыстойныя рысункі і надпісы-крымзолі. Іх трэба памаляваць густой фарбай. Тут жа насупраць прыстрэшка знаходзіцца прадшколле. Яно працуе зараз (10 жніўня па пляцоўцы для гульняў бегалі дзяўчынкі і хлопчыкі). Магчыма, што не ўсе гэтыя дзеткі ўжо навучыліся чытаць, але малюнкамі то яны хуценька пацікавяцца.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# ХТО МЫ? АДКУЛЬ НАШЫ ІМЁНЫ І НАЗВЫ?

У Аўгустове-Ягуштове вучацца школьнікі з усёй гміны Бельск-Падляшскі.

— Столькі кіламетраў да Ватыкана, — кажа дырэктар Юры Жменька, — колькі налічвае наш школьны маршрут. Кожны дзень у школу звозяць дзяцей з 56 мясцовасцей. Раніцай і пасля абеду пяць аўтобусаў перадольваюць ажно 1300 (!) кіламетраў.

— Ці гэта мяшае засяродзіцца на навуцы?

— Усяляк бывае, — чуем у адказ, — напэўна складана наладзіць пазаўрочныя заняткі. У школе жменька вучняў вывучае беларускую мову.

— Гэта таму, што з беларускіх вёсак няма дзяцей, — кажа дырэктар. — Зараз са шматлюдных калісь вёсак, такіх як Плюцічы, Крывая, вучыцца па адным дзіцяці.

— Бывае так, што беларускія песні спяваюць палякі, — дадае Юры Жменька, — бо школьны гурт «Камертон» мае розныя песні ў сваёй праграме.

Мы мелі нагоду паразмаўляць са старэйшымі вучнямі пачатковых класаў, якія ходзяць на ўрокі беларускай мовы. Мы засяродзіліся на назвах мясцовасцей.

— Чаму Аўгустова мясцовыя людзі называюць Ягуштовам?

Адказ просты для тых, хто ведае мясцовы дыялект. У мінулым жыхары Падляшша мелі свае варыянты назваў і імён. Яны проста хацелі прыгожа адрознівацца ад іншых! Вось і рымскага Аўгуста тут называлі па-свойму Ягуштынам! Адтуль і мясцовая назва, якую прыдумалі ў гонар караля Аўгуста, які праязджаў бельскім гасцінцам, што сцелецца праз сяло... Недарэчна і смешна, калі часам мясцовыя саромеюцца сваёй назвы. Уласнае імя сведчыць пра сілу і грамадскую свядомасць мясцовых людзей. За кожнай назвай ідзе займальная і незвычайная легенда і гісторыя. Менавіта, гутарка пра назвы навакольных вёсак жыва цікавіла нашых сяброў. Усе яны паабяцалі запісаць легенды пра свае вёскі. Чакаем допісаў!






**Зорка**

**Фота Ганны Кандрацюк**

*Янка КУПАЛА*

## Дуб

*Распусціўшы сучча*
*У глухім прыволлі,*
*Сам адзін расце ён*
*На далёкім полі.*
*Як цар, у кароне,*
*Аб нічым не дбае,*
*Ці то стогне бура,*
*Ці віхор гуляе.*
*На адным ён месцы*
*Днюе і начуе;*
*Многа казак знае,*
*Многа песень чуе.*
*Дождж падмыў карэнне;*
*У ім дупло — як хата...*
*Ён стаіць і дрэмле —*
*Грозны. Расахаты.*

*Юлія ЛЯСОТА*
*ПШ у Нараўцы*

## Маленкая айчына

*Як я люблю сваю маленькую айчыну,*
*У якой я нарадзілася і жыву!*
*Тут сяброў сваіх маю,*
*З якімі сябрую і ў школу хаджу.*
*Такога харошага куточка*
*Ва ўсім свеце няма.*
*Паверце мне, людзі,*
*у тое што я вам кажу!*

*Маргарыта САДОЎСКАЯ*
*ПШ у Міхалове*

## Восень

*Аранжавы свет гэта каляровая кветка.*
*Восень прыгожая на зямлі.*
*Лісточкі яшчэ трымаюцца бярозкі,*
*Яны ўпартыя, як не трэба.*
*Таму трэба карыстацца веласіпедам,*
*Пакуль няма снегу!*

*Юлія ЛЯСОТА*
*ПШ у Нараўцы*

## Вожык

*Маленькі вожык*
*Сеў на дарожцы*
*І не ведае, куды пайсці,*
*Каб ежы на зіму прынесці.*
*Каб зіму пераіжыць,*
*Трэба многа рабіць.*
*Вожык зімы баіцца*
*І многа прыпасаў збірае,*
*Каб у халодныя дні*
*Мець ежу на ўсе зімовыя дні.*

## УВАГА КОНКУРС! № 39-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 4 кастрычніка 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Стаіць дзед
пры дарожцы,
усім
чапляе па
брошцы.
Дзяд.....

З яе цудоўныя салаты
Прыгатаваць мы вельмі рады.
Хоць злая, горкая. Але
Хай будзе часта на стале.
Р......

**Адказ на „Конкурс на заканчэнне канікул”: загаловак кніжкі «Uprawa buraków». Кніжку Міхася Андрасюка «Крыжык» выйгралі Аляксандра Зінкевіч з Бельска-Падляшскага і Уля Марчук з Нараўкі. Віншуем!**

# (У)зорныя пяціласнікі!

Усе любім аздабляць народным арнаментам адзенне, прадметы, хаты. Цэнтральнае месца ў беларускіх узорах займае васьмікутная зорка. Такі лагатып мае нашая старонка. Таксама пяты «б» клас зросся з зорчынай сімволікай. А ведаеце чаму?

За гэтым ідзе каларытная гісторыя.

З наймалодшых гадоў нашы сябры з бельскай «тройкі» адзначаюць навагоднія святы. Яны вывучаюць калядкі, бяруць каляровую зорку і ходзяць калядаваць па школе. У першую чаргу ідуць да спадарынь дырэктарак і працаўнікоў адміністрацыі. Пасля ў сталовую, павесяліць кухарак. Усюды іх частуюць добрым словам, цукеркамі і ласункамі.

Народныя традыцыі набліжаюць людзей.

Таксама ў пятым «б» жыве дух сяброўства. У час нашай сустрэчы мы прыкмецілі файную справу. Як заўсёды, мы прапанавалі вучням тэматычныя конкурсы з узнагародамі. Трэба было назваць прозвішча паэта, які ў гэтым годзе адзначаў 90-годдзе і ўжо 59 гадоў супрацоўнічае з «Нівай». Чарговыя пытанні датычылі гісторыі школы і краязнаўчых цікавін. Пяцікласнік Ілья Фіёнік ужо ў палове кожнага пытання ведаў адказ. Ён аднак не хацеў згарнуць усіх узнагарод для сябе! Хлапец адгадаў першае пытанне і атрымаў кніжную ўзнагароду. Пасля ён «дапамагаў» калегам, наводзіў іх на адказы. Дзякуючы супрацоўніцтву ў хлапцоўскім куточку ажно загудзела ад здагадак і задумак. У рэшце рэшт многія знаходзілі правільныя адказы. Хлопцы гарэзнічалі, жартавалі, імкнуліся пашырыць тэму. Для такіх жывых момантаў хочацца прыязджаць на школьныя сустрэчы.



З пятым «б» класам мы сустрэліся на ўроку беларускай мовы. Нашы сябры назвалі дэкламатараў, якія прымалі ўдзел у «Родным слове». Гэта Малгажата Кубай, Адам Амбражэвіч, Марта Мацкевіч, Наталля Якімюк, Оля Ярмоцік і Ілья Фіёнік.

— Ужо з першых урокаў мы рыхтуемся да прадметнага конкурсу па беларускай мове, — кажа настаўнік Яраслаў Падолец. — Пакуль ахвоту приступіць да конкурсу заявілі чатыры асобы. Яны ведаюць, што падрыхтоўка да конкурсу пашырыць іх веды пра родную мову і Беларусь.

У пятым «б» класе 22 вучні. Іх выхавацель — Марта Мікалаюк-Стасюк.

**Зорка,**
**фота Ганны Кандрацюк**

## Вершы Віктара Шведа



### Аб пенсіі мара

Хуліган прыйшоў са школы
Надзвычайна невясёлы.
Маці азвалася бойка:
— Хіба зноў атрымаў двойку!

— Трэба каб ты зразумела:
Настаўніца ашалела
І жыве як у пажары.
Я аб пенсіі ўжо мару.

### Схаваліся

Настаўнік за вінаватым
Прыйшоў да яго хаты.
Разбойнікі Ваня
Заслужыў пакарання.

— Скажы, ці тата дома?
— Няма яго, вядома.
— А можа ёсць мама?
— Схавалася таксама.

## Польска-беларуская крыжаванка № 39-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 35:**

Парашутыст, карп, вецер, Об, верас, трон, данарыт, рыцар, Ас. Пуп, веды, перац, Ас, цана, кесар, удар, тын, порт, бо, ток, нос.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Сара Скаўронская**, **Мальвіна Казлоўска** і **Рафал Аксецяюк**. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Wrzos | | Matka / Wiąz | | Broda | |
| | Las | Mak | | Woda / Gatunek | | | | |
| | Księżyc / Mąż | | | | | | | |
| Lody | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| Cukier | | Potrawa | | | | | | |

## ЧАМУ КАТЫ ПАСЛЯ ЯДЫ МЫЮЦЦА

*(літоўская казка)*

Аднойчы прыляцеў верабей на панадворак. Скача, у лужыне купаецца, а кот на яго глядзіць. Глядзеў, узіраўся кот і шусь! Схапіў вераб'я за крыло, трымае і кажа:

— Ну, цяпер я смачна паснедаю!

— Ці вам не сорамна пан кот? — пачаў верабей. — Вы ж яшчэ не памыліся. Хіба не ведаеце, што спачатку трэба памыцца, а пасля снедаць?

— Праўда, я забыўся прыняць ранішні туалет, — кот падняў адну лапу, каб працерці сабе пыску…

А верабейка не думаў, ён затрапятаў крыламі і адляцеў.

Кот вельмі ўсхваляваўся, наёршыў шэрсць.

— Цяпер ты мяне ўжо не ашукаеш, — фукнуў ён, — цяпер я спачатку буду есці, а пасля мыцца…

З той пары ўсе каты на свеце мыюцца пасля яды.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*



# Моўная русіфікацыя Беларусі (ч.2)

**У сувязі з апошнімі геапалітычнымі выклікамі (агрэсіўная палітыка Расіі ў адносінах да Украіны і Грузіі), рыторыка вышэйшага кіраўніцтва краіны пакрысе мяняецца, але ж далей гэтага справа не ідзе. Так, у студзені 2015 года старшыня Канстытуцыйнага суда Пётр Міклашэвіч заявіў, што лічыць мэтазгодным выдаваць законы на беларускай і рускай мовах. Але ніякіх канкрэтных захадаў дзеля гэтага не было прынята. Нягледзячы на тое, што ў адпаведнасці з арт. 26 Закона Рэспублікі Беларусь „Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь" і арт. 4 Закона „Аб мовах" дзяржслужачыя абавязаны валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі, гэтая норма ў справаводстве і судавытворчасці практычна не працуе.**

Установы адукацыі як першая прыступка ў накірунку паўнавартаснага існавання беларускай мовы, яе валодання грамадзянамі краіны павінны былі б выконваць гэтую функцыю, выхоўваць павагу да нацыянальных каштоўнасцяў, гісторыі і культуры беларускага народа. Але, на жаль, з кожным годам сітуацыя ў сферы адукацыі толькі пагаршаецца. У дзіцячых садках і сярэдніх школах беларуская мова амаль не гучыць. Недастатковая колькасць гадзін вывучэння беларускай мовы, зачыняюцца беларускія школы. І калі раней некаторыя прадметы выкладаліся выключна на беларускай мове, то ў 2006 годзе, калі міністрам адукацыі быў Аляксандр Радзькоў, адбыўся пераход выкладання такіх прадметаў, як гісторыя і геаграфія Беларусі на расійскую мову, хаця раней яны выкладаліся па-беларуску. Патрабаванні ж грамадскасці вярнуць беларускую мову гэтым прадметам станоўчых вынікаў не даюць. У 2012 годзе тагачасны міністр адукацыі Беларусі Сяргей Маскевіч запэўніваў, што „задача ўжо пастаўлена і мы будзем імкнуцца да таго, каб ужо з новага навучальнага года беларуская мова вярнулася на ўрокі па гісторыі і геаграфіі роднага краю". Прайшло тры гады — ніякіх зменаў. І вось ужо новы міністр адукацыі Міхаіл Жураўкоў выказаў меркаванне, „што мы прыйдзем да таго, што ў нас больш за палову прадметаў будзе на беларускай мове". Праз тры месяцы на прэс-канферэнцыі ў Мінску намеснік міністра адукацыі Раіса Сідарэнка заявіла, што Міністэрства адукацыі не будзе «сілавым метадам» пераводзіць выкладанне школьных прадметаў на беларускую мову. Русіфікацыя ў сферы адукацыі прагрэсуе. Вось толькі некаторыя дадзеныя. Паводле інфармацыі Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у вышэйшых навучальных установах Беларусі на рускай і беларускай мове, хоць гэта мог быць адзін прадмет з усяго навучальнага цыкла, у 2014/2015 навучаліся больш за 149 тысяч студэнтаў — гэта 41%, на рускай мове — каля 212 тысяч — гэта 58%. На беларускай мове навучаліся 300 студэнтаў — гэта 0,1% ад агульнай колькасці, у 2013/2014 іх было 600, ў 2012/2013 — 700, што складала 0.2%: У дашкольных установах адукацыі на беларускай мове выхоўваліся 43 тысячы дзяцей (10%); — на рускай мове — амаль 368.000 дзяцей — 90%. Лічбы па ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі паказваюць, што колькасць навучэнцаў, якія вывучаюць усе прадметы на беларускай мове за чатыры гады знізілася з 19% да 14%: У 2001-2002 навучальным годзе колькасць вучняў, якія атрымліваюць сярэднюю адукацыю на беларускай мове, складала 400 869 чалавек супраць 135 100 у 2014/2015. Толькі з 2010 года па 2015-ы год колькасць беларускамоўных вучняў зменшылася на 43 тысячы. Варта адзначыць, што ў асноўным беларускія школы засталіся ў сельскай мясцовасці, але з кожным годам яны паступова скарачаюцца з прычыны нізкай укамплектаванасці вучнямі, а дзяцей пераводзяць ў больш буйныя школы, навучанне ў якіх часта вядзецца на рускай мове. У гарадах сітуацыя з выкладаннем на беларускай мове ў школах катастрафічная. Няма ніводнай цалкам беларускамоўнай школы ў абласных цэнтрах ці ў іншых буйных гарадах краіны. У двухмільённым Мінску толькі 5 гімназій і 1 школа паводле сваіх статутаў маюць беларускую мову навучання. У Гародні ў 2014/2015 разам у дзвюх школах і гімназіі навучаліся па-беларуску 26 дзяцей. Дваццаць гадоў таму каля 80% школ у Гародні былі беларускімі. Пасля рэферэндума 1995 г. аб роўным статусе рускай мовы з беларускай, сітуацыя рэзка змянілася на карысць рускай. У Магілёве — адзін клас з беларускай мовай навучання, у якім адна вучаніца. У Віцебску і Гомелі беларускамоўныя класы наогул адсутнічаюць. У Берасці ўпершыню ў гэтым 2015/2016 навучальным годзе адчынілі клас з беларускай мовай навучання, які складаецца з чатырох хлопчыкаў. Назіраецца тэндэнцыя скарачэння колькасці жадаючых здаваць моўны тэст па-беларуску. У 2015 годзе — на 3% менш у параўнанні з 2014 годам. Таксама скарачаецца колькасць абітурыентаў, якія абралі беларускую мову на цэнтральным тэставанні. У 2015 годзе беларускую мову здавалі толькі 24% выпускнікоў. 76% выпускнікоў школаў здавалі рускую мову. Яшчэ 8 гадоў таму, у 2007 годзе, суадносіны былі значна бліжэйшымі: 42% выпускнікоў здавалі тэст па беларускай мове і 58% па рускай. За апошніх пяць гадоў (2012-2015) больш як у два разы скарацілі набор на беларускую філалогію. У 2010 годзе БДУ на дзённую форму навучання набіраў 60 студэнтаў (48 бюджэт і 18 на платнай аснове). У 2012 — 25 (адпаведна 20 і 5). У 2015 ужо толькі 20 і толькі на бюджэт. У 2015 годзе на кітайскую філалогію ў БДУ набор вышэйшы за беларускую — 30 месцаў, з іх 10 бюджэтных і 20 на платнай аснове. У Беларусі няма ўстановы вышэйшай адукацыі з беларускай мовай навучання. 20 год таму Таварыства беларускай мовы з дапамогай экспертаў распрацавала канцэпцыю нацыянальнага ўніверсітэта, дзе выкладанне вялося б на беларускай мове, і сабрала 50 тысяч подпісаў за яго стварэнне. Аднак гэтая ініцыятыва не была падтрыманая на дзяржаўным узроўні. Скарачаюцца навуковыя даследванні і папулярызацыя беларускай мовы і літаратуры. У 2008 годзе дзве асобныя установы Акадэміі навук: Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа і Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы аб'ядналі ў адзін — Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. Гэтае аб'яднанне прывяло да скарачэння кадраў навукоўцаў і адназначна не ўзняло навуковых гуманітарных даследванняў на якасна новы ўзровень. А ў 2012 годзе ліквідавалі яшчэ адну самастойную адзінку — Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы, утварыўшы новае аб'яднанне Цэнтр даследванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. Цяпер гэтыя інстытуты існуюць у складзе Цэнтра ў якасці філіялаў. Доля беларускай мовы на нацыянальным тэлебачанні і радыёвяшчанні мізэрная, у краіне няма нават аднаго беларускамоўнага тэлеканала. Паводле дадзеных Белстата, у 2013 годзе ў Беларусі на рускай мове было выдадзена 82,8 % кніг і брашур, на беларускай — 10,1%. Выходзіла 654 газеты, з іх на беларускай мове — 189. У рэальнасці ж часта такія газеты маюць толькі беларускамоўную назву, а журналісцкія матэрыялы і рэкламу размяшчаюць паруску. З 921 часопіса на беларускай мове выпускалася 133, і ў дачыненні да мовы тая ж сітуацыя, што і з газетамі. Так, назва грамадска-палітычнага і навукова-папулярнага часопіса адміністрацыі прэзідэнта «Беларуская думка», але ўсе матэрыялы на ім выключна на рускай мове. На беларускай мове зусім не выпускаюцца мастацкія стужкі. Далёка не ў кожным музеі краіны можна замовіць экскурсію на беларускай мове. Аўдыё-гіды маглі б у пэўнай ступені вырашыць гэтую праблему, але, за рэдкім выключэннем, у музеях і іх няма. Не лепшым чынам выглядае сітуацыя з беларускамоўнай рэкламай. І хоць многія сусветныя брэнды сталі выкарыстоўваць у рэкламе сваіх тавараў і паслуг беларускую мову, па некаторых падліках, доля беларускамоўнай рэкламы ў нашай краіне не перавышае 1-3 працэнтаў. У той жа час паводле даследавання міжнароднага агенцтва сацыяльных і маркетынгавых даследаванняў МАСМД, заказчыкам якога выступіла грамадская кампанія «Будзьма беларусамі!»: 56% беларусаў пазітыўна ацэньваюць беларускую мову ў рэкламе, 60% падтрымліваюць выкарыстанне роднай мовы ў афармленні гарадоў і вітрын. З 1 ліпеня 2010 года ў Беларусі дзейнічае пастанова «Палажэнне аб парадку функцыянавання інтэрнэт-сайтаў дзяржаўных органаў і арганізацый», якім вызначаны парадак функцыянавання афіцыйных сайтаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, іншых дзяржаўных органаў і дзяржаўных арганізацый. У пункце 3 дадзенага дакумента ўтрымліваецца патрабаванне аб прадстаўленні інфармацыі на дзяржаўных мовах Рэспублікі Беларусь, а пры неабходнасці таксама на адной або некалькіх замежных мовах. Аналіз вынікаў маніторынгу прадстаўленасці інфармацыі на 45 афіцыйных сайтах дзяржаўных органаў і арганізацый, праведзенага Цэнтрам прававой трансфармацыі Lawtrend, паказаў, што ні адзін з іх не мае паўнавартаснай беларускамоўнай версіі. Толькі 8 сайтаў маюць беларускамоўныя версіі, якія ў большасці выпадкаў з'яўляюцца зрэзанымі варыянтамі рускамоўных і прадстаўляюць толькі частку абавязковых для размяшчэння катэгорый інфармацыі. Беларуская мова амаль цалкам адсутнічае ў працы ўсіх іншых дзяржаўных заканадаўчых, выканаўчых органаў: у міліцыі і пракуратуры, у міністэрствах і дзяржаўных камітэтах, у прэзідэнцкай вертыкалі ўлады. Моўная стандартызацыя ў рамках ЕўрАзЭС таксама яшчэ больш абмежавала правы беларускай мовы на таварах, якія вырабляюцца ў Беларусі. Для выпраўлення катастрафічнага становішча з беларускай мовай у Беларусі патрэбная спецыяльная комплексная дзяржаўная праграма ўратавання беларускай мовы, якая прадугледжвала б кардынальныя змены ў дзяржаўнай палітыцы русіфікацыі, якая праводзіцца сённяшнімі ўладамі Беларусі. Беларускай мове неабходная дзяржаўная падтрымка, інакш яна загіне.

> **„Я для сябе такое правіла вынайшаў, што калі нашай нацыянальнай мове наканавана загінуць, я пастараюся, каб гэта было не па маёй віне. Я буду размаўляць па-беларуску. Каб не гняло мяне потым, што я нешта мог зрабіць, але не зрабіў.**
>
> **Мастак Сяржук Цімохаў.**

http://spring96.org

# Заслужаны ландшафт



Печ у Саках

Адпраўляюся ў чарговую вандроўку, акурат у самую гарачую сёлетнюю спёку. З аўтобуснага прыпынку, што каля Шчытоў на ваяводскай бельска-белавежскай шашы № 689, кіруюся ў бок Пасынак па павятовай дарозе № 1610B. Асфальтоўка моцна змучаная, паморшчаная, унесла немалы высілак у грамадска-гаспадарчыя падзеі, што адбываліся ў яе наваколлі. Не ведаю, як цяпер, але калісь папулярным было ўзнагароджванне розных мясцовасцей рознымі ганаровымі званнямі, напрыклад званнем горада-героя ў Савецкім Саюзе, ці адзначанне нейкім геройскім крыжам у Польшчы. Калі б такая працэдура прымянялася ў адносінах да заслужаных дарог, мяркую, што шаша між Плёскамі і Орляй апынулася б адной з першых у ліку лаўрэатаў...

Два кіламетры па той дарозе ад згаданай раней ваяводскай дарогі № 689 распаложана вёска Крывая. Названа яна Крывой, хаця на першы погляд нічога крывога ў ёй не відаць; нават скрыжаванне шашы з вясковай вуліцай дакладна прамавугольнае. Ну, можа мінуўшчына крышку вадзіла вёску гусіным ходам. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з 1902 года інфармаваў адно: „Krywa, wieś, pow. bielski, gub. grodz., gm. Pasynki, 8 wiorst od Bielska, 1061 dziesięcin. Na gruntach wsi mogiła”. А ўжо цяперашні гмінны партал падказвае больш: „Miejscowość Krzywa jest symbolem chaotycznych zmian administracyjnych w XX wieku. Krzywa w latach 1934-1952 należała do gminy Orla. Następnie miejscowość ta znalazła się w gminie Pasynki (1952-1954). Od 1954 roku Krzywa weszła w skład gromady Szczyty Dzięciołowo. Gromadę tę zniesiono z końcem 1958 roku i Krzywa znalazła się w gromadzie Orla. Już rok później Krzywa, zapewne na prośby mieszkańców, została przesunięta do gromady Parcewo (1 stycznia 1960). W tym samym czasie przeniesiono siedzibę władz gromadzkich z Parcewa do Hołod i Krzywa odtąd należała do gromady Hołody. Nie był to koniec zmian dla mieszkańców Krzywej. Od dnia 1 stycznia 1969 roku zlikwidowano gromadę Hołody i weszła ona w skład gromady Orla. Mimo, że większość miejscowości ze zlikwidowanej gromady weszła w skład gromady Bielsk Podlaski. W 1973 roku utworzono gminy i tym razem Krzywą włączono do gminy Orla. Kolejne lata to czas funkcjonowania Krzywej w gminie Orla, lecz mieszkańcy nie byli zadowoleni z takiego rozwiązania... W czasach PRL-u na południe od Krzywej po wojnie powstała spółdzielnia produkcyjna”. Зараз вёска ў Бельскай гміне...

Зараз за скрыжаваннем стаіць двухпавярховы мураваны будынак былой школы. Быў час, калі асветная ўстанова называлася Пачатковай школай у Пасынках з сядзібай у Крывой; відаць, што і школа каратала сваю дзейнасць сваломам, спыніўшы яе пятнаццаць гадоў таму. Будынак нейкі час меў быць адмысловым грамадскім цэнтрам, нават захаваліся яшчэ гастранамічныя шыльды. І гэтая дзейнасць таксама апынулася ў тупіку. Хто ведае, ці з актуальнай хваляй бежанства з Усходу не наканавана будзе немалому будынку новая роля... Не толькі ў дарог, але і ў некаторых будынкаў цікавыя гісторыі, не ўсе яшчэ напісаныя.

Заслужаная асфальтоўка, быццам гід, вядзе падарожніка далей. І паказвае, як засуха ўскладніла і яе, асфальтоўкі, бытаванне. Вось злучэнне з палявой дарогай так рассохлася, што цяперашнія сельскагаспадарчыя машыны буксіруюць там у прыродным пясочным насціле быццам у размоклай дрыгве. А паветра здаецца дрыжаць у той спякоце быццам у нейкай ліхаманцы. І поле страціла шмат колераў пад ударамі раскаленага сонца, паслабела, пазбаўленае, быццам міфалагічны Антэй, жыццядайнага падсілкавання ад зямелькі...

Заходжу ў Локніцу. У пачатку вёскі, побач табліцы з назвай мясцовасці, турыстычны паказальнік з белым зместам, быццам інфармуючы, што ўсё там аднолькава вартае зацікаўлення. Далей, як і шмат якіх нашых вёсак, вартуюць Локніцу крыжы, як анёлы-ахоўнікі, якім вяскоўцы даручылі нагляд за сваімі відзімым і невідзімым. У пачатку вывадны цэментны крыж характарыстычны для сакральнага будаўніцтва геркаўскага перыяду. Каля былой школы каменны крыж яшчэ царскага вываду, з 1913 года. Пасярэдзіне вёскі два драўляныя крыжы. Амаль насупраць гаспадары рамантуюць хату; пытаю, ці гэта там стаяла колішняя локніцкая царква. Даведваюся, што стаяла яна крыху далей, на правым канцы вёскі. І сапраўды, на названым месцы стаіць чарговы крыж, у агароджы, у якой кветачны агародчык карчанее ад спёкі. На крыжы інфармацыя, што там была царква Мікалая Цудатворцы. За крыжом, на цэрквіску, на намоленым месцы, якое засуха замяніла ў надта посную пашу, посціць кароўка.



Межавы крыж між Мякішамі і Пасынкамі

З другога боку вуліцы інфармацыйны стэнд пра вёску: „Назва вёскі выводзіцца ад пераплываючай непадалёку ракі з такой жа самай назвай. (...) Знаходзілася тут праваслаўная царква. Хаця ў сённяшні дзень ніякіх слядоў пасля яе няма, памяць аб храме захавалася ў праверачных дакументах горада Нарвы з 1560 г., а таксама ў традыцыі тутэйшых жыхароў. Локніцкая царква была праўдападобна разбурана ў час ваенных пажарышчаў 1655-1660 гадоў. Пра тое, як важнай магла быць Локніца ў XVII ст., можа сведчыць факт, што ў 1780 г. у Бельску існавала вуліца Локніцкая...”.

Крыху далей разгалінаванне дарог, дзе падаюся налева, намячаючы падацца ў бок Мякішоў. Зараз з левага боку гэтай яшчэ вуліцы панадворак з незвычайнымі экспанатамі. У розных месцах таго панадворка сельскагаспадарчыя прылады з нядаўняга мінулага, кожная прыаздобленая буйным вазонам кветак. Гэта быццам адзнакі — быццам ордэны, медалі ці зоркі герояў — жалезным ветэранам земляробства, напэўна заслужаным для апрацоўкі мясцовай зямелькі — разам з людзьмі і коньмі; з гэтай земляробчай трыяды асталіся ў прынцыпе толькі яны — прылады...

За апошнімі збудаваннямі рэчка Локніца, ад якой пайшла назва вёскі. А з чаго ўзялася назва самой рэчкі? Аляксандр Брукнер: „łokać, łoczę, ’łeptać, chlać, żłopać’; „grzechy jako wodę łoczesz”, jeszcze u Wujka, potem zapomniane...”. Відаць, што на рэчцы быў вадапой; мабыць ад такога ж вадапою пайшлі назвы такіх мясцовасцей як Полацк, Плоцк ці Элк... Геаграфічны слоўнік: „Łoknica, lewy dopływ Narwi; płynie z za Kuraszewa do wsi Kaniuki”.

А на рэчцы масток, пра які ў 1952 годзе беластоцкая штодзёнка пісала: „Na terenie gromady Łoknica w gm. Bielsk Podlaski znajduje się mostek wymagający naprawy. Pracy przy nim nie wiele i gdyby kilku chłopów chciało się nieco przyłożyć, mostek byłby w ciągu paru dni zreperowany i nie trzeba byłoby łamać wozów i rwać uprzęży przy objeżdżaniu mostka po różnych wertepach”. Сёння там бетонны мост, а традыцыйныя вазы і вупраж адпраўлены на заслужаны адпачынак.

За Локніцай абшырны ўчастак поля з самасейнымі зёлкамі. А за гэтым участкам пачынаецца лес. А ў лесе ямы, запоўненыя заслужанымі элементамі аджытага вясковага будаўніцтва — ландшафцік не так рэдкі ў акружаючых нашы вёскі лясках. Далей дарога з прыродным насцілам так рассохлася, што трэба па ёй капацца быццам у глыбокім снезе.

З Мякішоў кіруюся ў бок Пасынак. На мяжы вобрубаў абедзвюх вёсак старэнькі драўляны крыж з абломліваючымся папярочным брусом. Магчыма, што калісь высіўся ён над наваколлем над абсейванымі збожжам палямі, а калі падгніваў знізу, і пакуль верх трымаўся, закопвалі яго больш здаровую ніжнюю частку. Зараз на даўнейшых палях паяўляецца сям-там лес, закрываючы сабою колішні краявід, у тым ліку і межавы крыж.

З Пасынак дарогі — расходныя. Наогул у Бельск, але мне задумалася стаптаць менш езджаныя дарогі; кіруюся ў Сакі і далей на мост, што за Суботкай на Арлянцы. У Саках помнік даўнейшага вясковага інтэр’еру — на адным панадворку ад даўняй хаты асталася толькі кафляная печ-сцяноўка. Пры нагодзе, аднак, хачу прыгадаць яшчэ адзін помнік даўніны, прапагандысцкі — у 1951 годзе „Газета беластоцкая” пісала так пра Сакі: „Tegoroczna susza wyrządziła niemałe szkody w zasiewach ozimin. Zdawałoby się, że chłop zasiewy zbóż ozimych powinien otoczyć jaknajdalej idącą opieką, bo przecież one będą decydować w przyszłym roku w poważnym stopniu o ilości chleba. Tymczasem np. chłopi w gromadzie Saki, gm. i pow. Bielsk Podlaski, nie troszczą się zupełnie o oziminy. Choć nie ma jeszcze mrozów, puszczają luzem konie, bydło i owce na pole. Te hasając po oziminach wydeptują je, a owce wyjadają żyto czy pszenicę nieraz z korzeniami. Nierzadko spotyka się tu i świnie ryjące zasiewy. (...) Na podkreślenie zasługuje fakt, że tego rodzaju wypasanie inwentarzem żywym ozimin, jeszcze przed nastaniem mrozów, dotyczy wyłącznie gospodarstw indywidualnych. W licznych na terenie powiatu bielskiego spółdzielniach produkcyjnych tego rodzaju wypadki nie mają miejsca, gdyż członkowie spółdzielni intensywnie walczą z wszelkiego rodzaju marnotrawstwem”. Так калісь былі пісалі...

Зараз за Суботкай рэчка Арлянка, а за рэчкай так жа названая мясцовасць. Я часта спасылаюся на Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага; вось што ў ім напісана пра рэчку: „Orlanka, rzeka w gub. grodzieńskiej, najważniejszy lewy dopływ Narwi. Bierze początek na zachodniej stronie Puszczy Białowieskiej, powyżej mka Kleszczele, płynie w kierunku płn., skłaniając się nieco na zachód, wąską doliną, na przestrzeni 48 w[iorst]. Brzegi ma wysokie i dla tego nie rozlewa. Szerokość jej wynosi od 1 do 3 sąż., głębokość zaś dochodzi do 2 stóp. Od lewego brzegu przybiera rzekę Białę, długą 26 w., przy ujściu do której strumienia Lubcza al. Lubka leży miasto pow. Bielsk. Nadto wpada do O. rzka Czyżówka”. Цікава, чаму Арлянка названа найважнейшым прытокам Нарвы...

Сама вёска Арлянка невялічкая, здаецца, што ў ёй толькі дзве гаспадаркі; не заходзіў я туды, бо ўжо меў шмат кіламетраў у нагах і трэба было лічыцца з кожным крокам, асабліва ж калі стаяла спякотнае надвор’е. Але маю ўвагу прыцягнулі два крыжы, што перад вёскай, асабліва ж адзін з іх. Бо пастаўлены ён, як мне здаецца, не так з бетону, як з глыбіні ўсхваляванай верай душы. Магчыма, што захавальнікі помнікаў даўніны выглядаюць нейкіх рукадзельных памятак, шукаючы ў іх мастацкіх стандартаў, аднак можа здарыцца так, што больш можа быць варты нестандартны аб’ект, з якога выглядае вельмі шчырая душа...

Лясок, што ў міжрэччы Арлянкі і Белай, таксама закрануты засухай. І ён, як згаданы крыху раней Антэй, пазбаўлены сокаў зямлі, заўчасна здаецца восені, губляючы пажаўцелае лістоўе: парадаксальна — спякотная пагода вытурае лета...

Калі з такой засланай лісцем лясной дарожкі выходжу на сенажаці, што ў пойме Белай, паказваецца мне збудаванне накшталт альтанкі. Але ж не — побач будыначка высокі візантыйскі крыж, ды і на будыначку таксама крыжык. Гэта каплічка Багародзіцы і братоў Макавеяў. Браты Макавеі праславіліся мучанікамі за дзвесце гадоў да пакутаў Хрыстовых, бо, згодна прынцыпам сваёй рэлігіі, адмовіліся есці свініну па загадзе сірыйскага правіцеля Антыёха. З якім бежанствам яны трапілі ў лік заступнікаў каплічкі між Арлянкай і Грыневічамі, у краіну, дзе ад свініны можна ўжо не адмаўляцца нават у пост, цяжка мне здагадацца. Хіба зусім выпадкова. Гэтак жа як выпадкова трапіў туды і я, калі, заміж валачыць ногі па асфальтоўцы ў Бельск, выбраў шпацыр па бездарожжах вакол вялікай ракі Арлянкі ў напрамку Гацькоў.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



# ПЯЧЭННЕ БУЛЬБЫ

Вылучэнні атрымалі: (злева направа): Таіса Селевановіч, Марыя Вапа, Надзея Мароз і Ірэна Манцюк

Гарадскі асяродак культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях у палове верасня над вадаёмам у Рэпчычах арганізуе цыклічнае мерапрыемства пад назвай «Пячэнне бульбы». Сёлета свята адзначалі 19 верасня. Надвор'е паспрыяла, публіка не падвяла. Купцы паставілі латкі з цацкамі для дзетак, цукровай ватай ды іншымі смакоцыямі. Імпрэза пачалася ў 14:30. Гасцей прывітала дырэктарка ГАКСіА Марыя Клімовіч, у тым ліку бургамістра Кляшчэляў Аляксандра Сяліцкага, сакратара гміны Валянціну Сідарук, скарбніка Галіну Леанкевіч, старшыню Рады горада Кшыштафа Лянгэ, старшыню Таварыства сяброў Кляшчэлеўскай зямлі Анджэя Рошчанку, ксяндза Яна Красоўскага, старшыню аб'яднання «Спадчына» Людмілу Дудар з горада Высокае, з якім Кляшчэлі ладзяць кантакты, намесніцу старшыні Раённага аддзялення Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Гайнаўцы Ніну Пташынскую, затым старшынь гмінных пенсіянерскіх гурткоў (з дэлегацыямі) з Кляшчэляў, Гайнаўкі, Чыжоў, Нараўкі і Дубіч-Царкоўных, солтысаў і радных ды жыхароў навакольных вёсак.

— Пасля некалькіх гадоў перапынку, — гаварыў, узяўшы слова, бургамістр Аляксандр Сяліцкі, — я вельмі цешуся, што Гасподзь хацеў, каб вярнуліся мы з «Пячэннем бульбы» над Рэпчыцкі вадаём. У летні сезон за няпоўныя тры месяцы Рэпчыцкі вадаём наведала 21 тысяча турыстаў. Гэта абазначае, што на Гайнаўшчыне ў турыстычным руху мы стаім на другім месцы, за Белавежскай пушчай. І гэта лічу своеасаблівым дасягненнем. Рэпчыцкі вадаём быў здадзены ў карыстанне трынаццаць гадоў таму, — расказваў далей прамоўца, — у верасні 2002 года. Вадасховішча займае плошчу ў дзесяць гектараў. У мінулым трыццацігоддзі ніводнаму самаўраду не ўдалося збудаваць так вялікага штучнага вадаёма. Калі іншыя гміны ў асноўным будавалі тады водаправоды і санітарную каналізацыю, мы гэтыя задачы рашалі ў меншай ступені, а прыярытэтнай справай палічылі будову вадасховішча. І гэта было трапнае рашэнне. Калі трыццаць гадоў таму назначылі мяне начальнікам гміны, дык на вясковы сход у Рэпчычы я вымушаны быў дабірацца праз Чаромху і Кузаву, бо з Кляшчэль не было туды дарогі. Многае цяпер перамянілася. Збудавалі мы даязныя дарогі. Невялічкая вёсачка стала вядомым турыстычным цэнтрам не толькі на Гайнаўшчыне, але і на Падляшшы. Цешуся, што можам разам адзначаць «Пячэнне бульбы» — сказаў у заканчэнні бургамістр Аляксандр Сяліцкі. — Лічу, што праграма сённяшняга мерапрыемства задаволіць шаноўную публіку, а печаная бульба ўсім хопіць. Затым жадаю вясёлай забавы!

У мастацкай частцы выступілі «Чыжавяне». На прывітанне гурт выканаў «Беларусачку». Затым паплылі беларускія, украінскія і рускія песні: «Салавейка», «Чырвоная калінонька», «Аддавалі маладу», «Ярмарка», «Верыла я», «Цвітэ тэрэн» ды іншыя. Калектыў выступаў у двух падыходах. У час перапынку іх месца на сцэне заняў музычны гурт «J.B.M.» з Сухавольцаў, які выканаў папулярныя беларускія і рускія песні ва ўласнай аранжыроўцы, між іншым, «Кучэры», «Смэрэко», «За окном черомуха колышется», «Ой, што за шум учыніўся». У другім падыходзе «Чыжавяне» запрэзентавалі багаты і разнародны рэпертуар. Над вадаёмам луналі народныя напевы: «Зашла сонца за аконца», «Ехаў Ясь на кані», «Жыта жала», «Ныч яка місячна». На развітанне гурт выканаў вянок добра вядомых песень, у тым ліку «Распрагайтэ хлопці коней». Канцэрт доўжыўся амаль гадзіну, а публіка пасля кожнага нумара ўзнагароджвала артыстаў бурнымі апладысментамі.

Атракцыёнам мерапрыемства былі кулінарны конкурс бульбяных страў і катанне фурманкай навокал вадасховішча. Вазаком быў Сяргей Сахарчук з Дабрывады. На кулінарны конкурс заяўлена было адзінаццаць страў. Пераможцы атрымалі падарункі. Апрача таго кавальскія вырабы прэзентаваў каваль з Чыжоў спадар Галёнка, а спадар Карпюк з Забагоншчыны прапанаваў вырабы з ракіты.

Я пакідаў імпрэзу ў поўным разгары перад пятай на адвячорку. Удзельнікаў мерапрыемства чакалі яшчэ шматлікія конкурсы з узнагародамі ды забава пад гукі музыкантаў з Сухавольцаў.

Кляшчэлеўскае «Пячэнне бульбы» лічу ўдалай імпрэзай. За гэта арганізатарам належыцца сардэчнае «дзякуй!».

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

---

Вывучаем беларускую

Асновы – Podstawy

# http://by.lang-study.com

Калі лукашэнкаўская ўлада кажа, што беларуская мова і так не знікне, таму ёй і не трэба дапамагаць захавацца, то, магчыма, у нечым яна мае рацыю. Бо захаваецца яна, выключна, насуперак беларусафобскім памкненням цяперашняга кіраўніцтва ў Мінску і дзякуючы намаганням свядомага беларускага грамадства. Адным з прыкладаў такой руплівай працы на ніве захавання і далейшага адраджэння беларускай мовы можна назваць сайт у інтэрнэце, які пазначаны словамі „Вывучаем беларускую".

Выява адукацыйнага сайта, што месціцца па адрасе http://by.lang-study.com, вельмі прывабная — на фоне зялёнага поля і блакітнага неба размешчаны нібыта аркуш паперы, які азагалоўлены „Беларуская мова з натхненнем!", а ўверсе ледзьве заўважныя словы „З любоўю да мовы". Прачытаўшы гэтыя словы, цяжка адмовіцца ад жадання пазнаёміцца з сайтам бліжэй. І тут вельмі дапаможа старонка „Пра праект", выйсце на якую месціцца ўверсе выяўлення пад загалоўкам цэлага сайта. „Сайт «Вывучаем беларускую: з любоўю да мовы» — гэта эксперыментальная пляцоўка для студэнтаў, якія вучацца ствараць электронныя навучальныя рэсурсы па беларускай мове. Прапанаваныя на сайце вучэбныя матэрыялы ўвесь час удасканальваюцца і пашыраюцца. Гэта доўгатэрміновы праект, які паляпшаецца, дзякуючы намаганням розных удзельнікаў", — распавядаецца там. На старонцы таксама пазначаны тыя асобы, што прынялі ці прымаюць удзел у рэалізацыі праекта. Гэта тры дзясяткі студэнтаў філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта розных гадоў навучання на чале з дацэнтам кафедры прыкладной лінгвістыкі Вольгай Елісеевай.

Распрацоўшчыкі сайта лічаць, што вывучыць на падставовым узроўні беларускую мову можна за 15 урокаў. Па меншай меры, аб гэтым сведчыць колькасць падрубрык і іх назвы на старонцы „Асновы". Напрыклад, у першым уроку распавядаецца пра асноўныя асаблівасці беларускага вымаўлення. Прычым гэты расповед аздоблены гукавымі запісамі. У сваю чаргу пятнаццаць ўрок, які носіць назву „Да пабачэння!", з'яўляецца сапраўды добрым замацаваннем пройдзенага матэрыялу. Там сярод іншага можна спраўдзіць свае веды ў лагічнай пабудове сказа, перакладах, выбары правільнай формы дзеяслова.

Уверсе цэлага выяўлення і з правага ягo боку месцяцца выйсці на так званы „Слоўнік". Ён цікавы тым, што падзелены тэматычна. Так, у тэме „Сям'я" той, хто вывучае беларускую мову, можа не толькі прачытаць адпаведныя сказы, але пачуць, як гучаць ключавыя словы з гэтай тэмы. Дарэчы, тэм у „Слоўніку" даволі многа. Сярод іх — „Вымярэнне часу", „Каляндар", „Лічбы, лік і лічэнне", „Горад", „Транспарт", „Рух", „Напоі", „Мэбля" і шмат іншых. Праўда, не ўсе з іх змяшчаюць гукавыя файлы для праслухоўвання ключавых слоў.

Выкарыстанне вывучанага ў размовах дазваляе ўбачыць рубрыка „Дыялогі". Там да таго ж маюцца спасылкі на найбольш важныя словы, якія адначасова змешчаны ў слоўніку.

На сайце, як і ў звычайнай школе, не абышлося без практыкаванняў, якія знаходзяцца ў аднайменнай рубрыцы. Там, акрамя заданняў па правільным выкарыстанні розных часцін мовы, ёсць і практыкаванне па самакантролю над вывучаным.

Нягледзячы на ўсе станоўчыя моманты, ёсць аднак на сайце яшчэ недапрацоўкі. Так, калі карыстальніку прапануецца выбраць спосаб прагляду цэлага зместу, то не на ўсіх старонках можна зрабіць гэта з перакладам на прапанаваны рускую альбо польскую мовы.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

Дата з Календара

Беларускі педагог і асветнік

# 140 гадоў з дня нараджэння Сяргея Паўловіча



Беларускі багаслоў, педагог, перакладчык, дзеяч у галіне царкоўнае асветы Сяргей Паўловіч нарадзіўся 25 верасня 1875 г. у вёсцы Асаўцы Кобрынскага павета (цяпер Драгічынскі раён). Скончыў Літоўскую праваслаўную духоўную семінарыю ў Вільні, пасля вучыўся ў Кіеўскай духоўнай акадэміі. Тэмай кандыдацкай дысертацыі абраў уніяцкі Замойскі сабор 1720 года. У 1900 г. скончыў акадэмію са ступенню кандыдата багаслоўя. Выкладаў Закон Божы ў духоўнай вучэльні. У 1904 г. „Гродненские епархиальные ведомости" надрукавалі яго „Опыт истории Замойского униатского провинциального собора (1720 г.)", а потым праца выйшла асобным выданнем.

У 1909-1912 гг. выкладаў Закон Божы ў настаўніцкай семінарыі і жаночай гімназіі Рагачова. У 1913 г. прызначаны інспектарам народных вучэльняў у Ваўкавыску. З пачаткам Першай сусветнай вайны выехаў як бежанец у Калужскую губерню. Займаў пасаду загадчыка фінансавага аддзялення ў аддзеле народнай адукацыі, а яго жонка Марыя Мікалаеўна працавала памочнікам бухгалтара ў Калужскім аддзяленні Дзяржбанка.

Паўловічы вярнуліся з Расіі на тэрыторыю Заходняй Беларусі. Пасля пераезду ў Вільню Сяргей Паўловіч працаваў выкладчыкам Закону Божага ў Віленскай беларускай гімназіі, а ў 1927/1928 навучальным годзе займаў пасаду дырэктара гэтай гімназіі.

Педагагічная і грамадская дзейнасць Паўловіча была цесна звязаная з ТБШ. Некаторы час ён уваходзіў у склад кіраўніцтва гэтай культурна-асветнай арганізацыі. Рэдагаваў часопісы „Летапіс Таварыства беларускае школы" (з 1936 г. — „Беларускі летапіс") і „Беларускі каляндар", якія выдаваліся гэтым таварыствам. Акрамя таго, Паўловіч дапамагаў Беларускаму выдавецкаму таварыству, быў сябрам Беларускага навуковага таварыства, на яго пасяджэннях выступаў з рэфератамі па гісторыі хрысціянства.

З канца 1920-х гг. рэзка ўзмацнілася паланізацыя школы. Міністэрства веравызнанняў і грамадскай асветы запланавала на 1929/1930 навучальны год увядзенне ў беларускія школы падручніка „Лемантар" Станіслава Любіч-Маеўскага. Паўловіч крытычна аналізаваў яго, выкрыў шкоднасць гэтага дапаможніка для нацыянальнай свядомасці дзяцей. Чыноўнікі былі змушаны зняць лемантар з карыстання, але праз год „выпраўлены" падручнік усё ж быў уведзены ў навучальны працэс. У 1929 г. у Вільні ў беларускай друкарні імя Скарыны быў выдадзены падручнік Паўловіча „Пішы самадзейна". Развіццё навыку самастойнага пісьма...". У тым жа годзе выйшлі ў свет і „Метадычныя ўвагі" да падручніка „Пішы самадзейна". Яны былі допушчаны Міністэрствам асветы ў настаўніцкія бібліятэкі пачатковых школ з беларускай мовай навучання.

16 кастрычніка 1930 г. і ў 1933 г. Паўловіч быў арыштаваны і сядзеў у турме на Лукішках. У 1936 г. у Вільні быў надрукаваны лемантар Паўловіча „Першыя зярняткі". Нацыянальным алфавітам беларусаў Сяргей Паўловіч лічыў кірыліцу, абгрунтоўваў гэта прычынамі гісторыка-культурнага характару. Ва ўмовах узмацнення паланізацыі быў вымушаны надрукаваць другое выданне лемантара лацінкай — „Zasieйki". Нягледзячы на гэта, тыраж быў канфіскаваны.

Паводле некаторых звестак, у 1937 г. жыў у Варшаве, дзе рэдагаваў дзіцячы ілюстраваны царкоўна-культурны часопіс „Снапок", які быў дадаткам да газеты праваслаўнай мітраполіі „Слова". Памёр Сяргей Паўловіч ад хваробы сэрца 16 верасня 1940 г. у Вільні. Пахаваны на Еўфрасіннеўскіх могілках.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Міжнародны пленэр у Нараўцы

Зараз у Нараўцы адбываецца XIV Міжнародны пластычны і разьбярскі пленэр «НАРАЎКА — 2015». Удзельнічаюць у ім мастакі і разьбяры з Польшчы, Беларусі, Латвіі і Літвы (разам васямнаццаць чалавек). Іх расквataravалі ў прыгожых новых начлежных доміках Байдарачнай прыстані над маляўнічай ракой Нараўкай. Тут яны маюць добрыя ўмовы для творчай працы і адпачынку.

На два тыдні ў ціхую і сонечную Нараўку прыехалі Данель Грамацкі, Віктар Кабац і Марэк Сапёлка — усе яны з Гайнаўкі, Станіслаў Асташэўскі, Цэцылія Сол'ян, Альжбета і Аляксандр Гжыбэк ды Радаслаў Мацієвіч з Беластока, Раман Хоінка з Зялёнай-Гуры, Майка Зузанская з Лэнчнай, Павел Карпюк з Любліна, Малгажата і Багдан Самборскія з Ясла, Ядвіга Памяноўская-Вільдэ з Кладавы, Анна Вонсікевіч з Влацлаўка, Андрэйс Северэтнікоўс з Рыгі (Латвія), Валянцінас Варнас з Коўна (Літва) і Святлана Рызнікова з Мінска (Беларусь). Некаторыя з іх ужо пабывалі на пленэрах у Нараўчанскай гміне, між іншым, вясною ў мінулым годзе ў Старым Ляўкове. Пасляпленэрная выстава пачнецца 26.09.2015 г. у галерэі ім. Т.Саланевіч у Нараўцы ў 16.00. **(яц)**

# Новыя стаўкі

Рашэннем Рады гміны ў Чаромсе ад 31 жніўня 2015 г. з пачаткам кастрычніка гэтага года павышаюцца стаўкі за ваду для карыстальнікаў гміннага водаправода. І так, стаўка 2,40 зл., якая абавязвала дагэтуль за кубаметр расходаванай вады, павышаецца на 2,59 зл. Павышаецца сталая плата абанамента за падключэнне да водаправода з 2,70 зл. на 2,92 зл.

Павышаюцца таксама стаўкі за вываз каналізацыйных нечыстотаў з 5,00 на 5,40 зл. за кубаметр. Новыя стаўкі будуць абавязваць да 30.09.2016 г.

**(ус)**

## ЗАПРАШЭННЕ

## PROGRAM FESTIWALU:

**27 września (niedziela)**
PREMIERA Spektaklu „Ksenia" - Teatr Czrevo,
Godz. 17:00 – wstęp wolny
Miejsce: Opera i Filharmonia Podlaska, Odeska 1 (Białystok)

**28 września (poniedziałek)**
Performatywne czytania baśni po-svojomu
Godz. 9:30, 10:15 – czytania dla grup zorganizowanych
Miejsce: Niepubliczne Przedszkole nr 1 im. św. Młodzieńca Gabriela (Bielsk Podlaski)

**29 września (wtorek)**
Spektakl „Byŭ by ŭ mianie cmok" – Teatr Kartonka (BY),
Godz. 10:00, 12:00 – spektakle dla grup zorganizowanych
Godz. 17:00 – wstęp wolny
Miejsce: Ratusz (Bielsk Podlaski)

**30 września (środa)**
Spektakl „Chatni vożyk" - Teatr Kartonka (BY),
Godz. 11:00 – spektakl dla grup zorganizowanych
Miejsce: Muzeum Białoruskie (Hajnówka)

Spektakl „Chatni vożyk" - Teatr Kartonka (BY),
Godz. 17:00 – wstęp wolny
Miejsce: Ratusz (Bielsk Podlaski)

**1 października (czwartek)**
Spektakl „Bieżeńcy" - Grupa teatralna z Muzeum Białoruskiego,
Godz. 18:00 – wstęp wolny
Miejsce: Bielski Dom Kultury (Bielsk Podlaski)

**2 października (piątek)**
Spektakl „Ksenia" - Teatr Czrevo,
Godz. 18:00 – wstęp wolny
Miejsce: Bielski Dom Kultury (Bielsk Podlaski)

**3 października (sobota)**
Spektakl „Czarnobyl" - Teatr Kryly Halopa (BY)
Godz. 17:00 – wstęp wolny
Miejsce: Akademia Teatralna (Białystok)

**4 października (niedziela)**
Spektakl „Bieżeńcy" - Grupa teatralna z Muzeum Białoruskiego,
Godz. 15:00 – wstęp wolny
Miejsce: Akademia Teatralna (Białystok)

Spektakl „Czarnobyl" - Teatr Kryly Halopa (BY)
Godz. 18:00 – wstęp wolny
Miejsce: Bielski Dom Kultury (Bielsk Podlaski)

**Na wszystkie spektakle wstęp wolny, rezerwacja bezpłatnych wejściówek tel. 511673151 lub e-mail teatr@czrevo.pl.**

**Organizator: Fundacja Teatr Czrevo,**
**Kontakt: Joanna Troc, tel. 511673151, teatr@czrevo.pl**
**Więcej informacji na stronie www.czrevo.pl oraz facebook.com/teatr.czrevo/**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. буслаў ласунак = 3 _ 7 _ 30 _ 34 _;
2. аб'ект дзеяння стаматолага = 32 _ 9 _ 10 _;
3. славянскі язычніцкі бог холаду = 15 _ 16 _ 13 _ 14 _;
4. збудаванне для здабывання вады; можа быць з жураўлём або калаўротам = 22 _ 23 _ 37 _ 25 _ 24 _ 12 _ 11 _ 21 _;
5. прэснаводная рыба з тоўстым слізістым целам = 17 _ 18 _ 26 _ 27 _;
6. герой іспанскай сярэдневяковай літаратуры = 6 _ 38 _ 8 _;
7. хвойнае дрэва сямейства кіпарысавых з дробным лісцем = 35 _ 36 _ 2 _;
8. верхняя частка галавы = 19 _ 31 _ 33 _ 20 _;
9. сасок у млекакормячай жывёлы = 28 _ 29 _ 1 _ 4 _ 5 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | 10 | 11 | 12 | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | | 30 | 31 | 32 | | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |

**Адказ на адгаданку з 36 нумара**

Кроў, санет, хна, пот, Хамурапі, выбраннік, араты, юбілей, Гюго, Веранезе, манто.

Рашэнне: **Хто ў прымах не бывае, той гора не знае.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 27.09 — 03.10

**(22.03. — 20.04.)** Адступіся ад спраў, у якіх адчуваеш сябе няўпэўнена. Самотны Баран няхай інтэнсіўна разглядаецца за парай — можаш сустрэць кагосьці наканаванага лёсам. Арганізуй кампанейскія сустрэчы. У апошнія дні верасня могуць турбаваць цябе старыя нямогласці, хутка бяжы да лекара, каб не мучылі цябе пасля сур'ёзныя хваробы. У кастрычніку дзейнічай вельмі асцярожна ў фінансах.

**(21.04. — 21.05.)** 26-29.09. можаш сустрэць асобу, якая схоча цябе сабе падпарадкаваць, а 28.09. будзеш неспакойны, не дай сябе выкарыстаць. У кастрычніку неблагая форма. Адчувай сённяшні дзень, а ўсё добра складзецца.

**(22.05. — 22.06.)** Напоўніць цябе жыццярадаснасць. Але 26-27.09. вельмі пільнуйся, бо хтосьці схоча цябе падмануць. Заінвестуй у сябе самога. Можаш зрэалізаваць нават дарагую мару. Праўдзі час з мілай табе асобай. 1-3.10. можа цяжарам быць табе былое; старайся не ўспамінаць.

**(23.06. — 23.07.)** Добры час на любоўныя сустрэчы да 29.09. Не нарабі сабе 28.09. сораму, не ляпні чагосьці, чаго пасля будзеш шкадаваць. У апошнія дні верасня не дурэй за рулём і на вуліцы, і не фарсіруй сябе лішне — цікуюць кантузіі і раненні, якія цяжка будзе вылечыць. Удасца табе зрэалізаваць нейкую добрую здзелку ў апошнія дні верасня. 1-3.10. дацэніш спакой і пастаяннасць у пачуццях партнёра.

**(24.07. — 23.08.)** 26-29.09. вельмі добры час на знаёмствы, сімпатыя, прыхільнасць і зацікаўленне атачэння. У кастрычніку маеш шанцы на новае каханне. Не ўключайся ў не свае справы. Вельмі добрая форма, але не зрывайся з матыкай на сонца.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш самаўпэўнены, прафарсуеш усе свае справы. Але 27-28.09. цяжкія моманты ад лішку абавязкаў. Хтосьці таксама будзе патрабаваць ад цябе проста немагчымага. 1-3.10. шэф дацэніць цябе, можа нават дасць падбаўку!

**(24.09. — 23.10.)** Лепшыя дні ў здароўі. Будзеш мацнейшы і весялейшы. Пачнеш дзейнічаць, а псіхічныя дылемы адсунеш на далейшы план. Але 28.09. магчымыя завіраванні ў пачуццёвым жыцці, якія могуць аказацца прыкметай больш сур'ёзнага крызісу.

**(24.10. — 22.11.)** 27-28.09. не ляпні абычаго, каб пасля не шкадаваць; пільнуйся ад злодзеяў. Будзеш у той час вельмі злосны, упарты наконт законаў і правіл; добра, што твая насцярожанасць не знеахвоціць да цябе іншых. У кастрычніку будзеш да шмат чаго падыходзіць лішне амбіцыйна. А можаш сустрэць асобу, якая можа табе зламаць сэрца!

**(23.11. — 22.12.)** 27.09. пераканаешся, хто нелаяльны ў адносінах да цябе — можаш парваць з ім кантакт. Зацьменне Месяца 28.09. будзе схільваць цябе да неабдуманых паводзін, старайся не вырашаць важных спраў. 1-3.10. калі штосьці цябе не датычыць, не выказвайся на гэтую тэму, бо можаш упароць глупства. Не гуляй у азартныя гульні і не рабі стаўкі на таргах і на біржах, інакш страціш значныя матэрыяльныя сродкі.

**(23.12. — 20.01.)** 28.09. могуць крануць цябе сямейныя завіраванні. Увесь тыдзень добры час для набыцця аўтамабіля. Каб пазбегнуць аварый і паломак сваёй машыны, абгарні маленькія манікюрныя нажніцы зялёнай стужкай і пакладзі іх у мяшочак, у які таксама насып сухую траву палыну, святаянніка і трыпутніка. Захоўвай гэты кудмень у «бардачку» у аўто.

**(21.01. — 19.02.)** 28.09. магутныя эмоцыі, асабліва ў Вадалеяў з пярсцёнкам на пальцы. 27-29.09. у пачуццях можа пайсці штосьці не так. Але агульна гэты тыдзень — добры час для наведвання грамадскіх мерапрыемстваў, забаўляльных установаў і месцаў з вялікай колькасцю людзей. Удача будзе спадарожнічаць табе ва ўсім. Чакаюць новыя знаёмствы, цікавыя сустрэчы і шмат станоўчых эмоцый.

**(20.02. — 21.03.)** У верасні нейкія нялёгкія эмоцыі ў сувязі з далейшай сям'ёй. Чытай дробны друк пад дамовамі. Усе важныя справы і рашэнні лепш перанясі на іншы тыдзень. Адмоўся ад публічных выступаў і гучных заяў. Калі апоўначы насценны гадзіннік праб'е аж трынаццаць разоў, гэтая прымета прадказвае хуткі арышт каго-небудзь з членаў сям'і, чыюсь хваробу, смерць або руіну. У гэтым выпадку трэба перавесці гадзіннік на дванаццаць гадзін раней, прыкусіўшы пры гэтым кончык языка зубамі і ў думках лічачы гадзіны ў зваротным парадку.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (15)



Любомільскі Багдан Хмяльніцкі, хоць пераможна трымаў атаманскую булаву, замест пра бой і перамогу застаўляў думаць пра бульбу. Усё з-за густой сярэбранай фарбы, якая месцамі злазіла з гістарычнай фігуры і напамінала збяднелага шляхціча ў драным балахоне. У падножжа, у шэра-бурых калюгах купаліся вераб'і. Дзядзька Анатоль, хоць мажны і важны па фігуры, гробся на градках з бульбай у агародчыку. Ён на момант адарваўся ад работы, стаў на зважай і адрэкамендаваў сябе: «Анатоль Антонавіч, лучшы фермер Любоміля!».

— А які ў вас сорт бульбы? — спытала я.

Дзядзька Анатоль не адрэагаваў на пытанне пра сельскагаспадарчую культуру. Здалёк было відна і чутна, што ён займаецца больш адказнай і важнай місіяй. Каб паказаць гэта на жывым прыкладзе, ён гукнуў у бок шопкі, дзе гудзела руская папса:

— Алёнка, а ну давай да работы!

На заклік выглянула заспаная прыгажуня з папяроскай у руцэ.

— Кінь таго цыбука і за бульбу бярыся! — накрычаў строга дзед.

Загад падзейнічаў, хоць не цалкам так, як жадаў таго Анатоль. Алёнка, не кідаючы папяроскі, прысела на кукішкі і з усмешкай, быццам курачка, пачала грэбціся ў зямлі. Праца побач строгага дзеда напамінала дзіцячую гульню і нейкую паказуху.

— Вось як трэба *перавaспітываць* моладзь, — адзначыў задаволены Анатоль. — Іначай ніколі не будзе спакою і дабрабыту ў нашай краіне.

* * *

Калі мы праз плот гутарылі з Анатолем, як з-пад зямлі з'явіўся не менш важны пенсіянер Коля. Яго шэры, наморшчаны твар напамінаў старую бульбу ўвесну, прызначаную для пасадкі. З рота, быццам пасынак, выглядаў адзін зуб жоўта-серкавага колеру. Ён моўчкі прыглядаўся рэадукацыі на градках. Адначасова лавіў кожнае слова і крыва заўсміхаўся. Калі я развіталася з «лепшым фермерам», дзядзька Коля, быццам хвост, паплёўся маім следам.

— Што тут гаварыць пра краіну і дабрабыт, — пачаў ён, — калі ў галаве ху...!

Усе крытычныя заўвагі былі скіраваны ў бок бяздумнай Алёнкі. Найгорш, што кепскія звычкі дзяўчыны каштавалі шмат грошай яе дзеда-пенсіянера:

— Кожнай раніцы ёй на «сто грам» трэба, — пачаў дзядзька Коля, — а сто грам то ж не хопіць...

Хоць мой субяседнік нібыта прыкідваўся заклапочаным праблемай Алёнкі, шкодныя звычкі дзеўкі, відавочна, яго ўзбуджалі. Дзед распытаў з якой мэтай я наведала іх мястэчка. Можа нечым гандлюю? Ці можа прапаведую якую рэлігію? Бо калі хачу пагаварыць з ім пра рэлігію, ён запрашае ў хату. На чай са *шпірцікам*...

Для спецаў па нелегальным памежным гандлі Любоміль — своеасаблівае прыстанішча і схоў на шляху кантрабанды алкаголем і цыгарэтамі. Дзядзька Коля сам няраз ганяўся з кантрабандай спірту ў Холм.

— Пакуль не *апазорыўся* на ўсё жыццё, — адзначыў ён нібыта заклапочаны.

Што за ганьба? Справа тычыцца мужчынскага гонару! Гэта было пры Януковічы. Калі хто меў рукі і ногі, кожны з іх прыгранічнага мястэчка сляпіцаю пёрся за мяжу з гарэлкай і папяросамі. Дзядзька Коля таксама павалокся з бабамі з мястэчка. Суседка, найбольш спрактыкаваная ў кантрабандзе, параіла прыхаваць спірт у портکі. І ён, стары дурань, пайшоў за яе радай. Карацей, да сцёгнаў падчапіў пластмасавыя мяшочкі са спіртам і абкруціў іх скотчам.

— Мужык, як не вучы, усё роўна будзе хадзіць як мядзведзь. Пакуль не мусіў, я не падымаўся на ногі. Але ж у туалет наперла! Відаць, там і мяне звочылі ў натоўпе тыя гайвараны... — апошні эпітэт адносіўся да памежных службаў. — І калі я шчасліва вяртаўся ўжо ў машыну, — цягнуў расказ дзядзька Коля, — мяне дагнаў адзін з нацэленым шпрыцам. Ён прадзіравіў пакеты ды ўвесь спірт усплыў на ногі і штаны. Я чуць не згарэў ад сораму. Найбольш дакучалі жанчыны. Яны рагаталі і прыкольна пыталі: «А што, не дабег, Коля?».

— З той пары я ўжо не паехаў у Польшчу! — уздыхнуў мой субяседнік. — Там жа з мяне дурня і пасмешышча зрабілі...





* * *

На добрую справу мяне не павінны былі здзівіць гісторыі, пачутыя пад помнікам Багдану Хмяльніцкаму пра мужчынскі гонар...

А вось у аўтобусе на трасе Любоміль — Луцк прысеўся да мяне сімпатычны прыгажун Рыгор. Як сапраўдны ўкраінскі хлопец, душой і целам быў запалонены светам машын. Найбольш захаплялі яго нямецкія «BMW».

— Нямецкія аўтамабілі гэта клас, — паўтараў Рыгор, — усё апошняе, гэта...

Замест грубага слоўца хлапец махнуў знеахвочана рукой. Падарожжа на аўтобусе не давала спакою маладзёну. Рыгор увесь час уяўляў, што замест сядзець у салоне аўтобуса, мог бы імчаць на сваёй машыне ў Луцк. Каб хоць крыху прызямліць свае мары, ён дабыў з кішэні мабілку з калькулятарам і пачаў лічыць кошт білетаў ды адлегласць паміж паасобнымі гарадамі.

— Каб я меў трох пасажыраў з Любоміля ў Луцк, — гаварыў ён быццам у трансе, — дык зарабіў бы на бензін для аўтамабіля. Калі б трапілася чатырох, тады хапіла б не толькі на дарогу, яшчэ і зарабіў бы на запчасці...

Калі Рыгор пачуў, што еду ажно ў Сарны, ён адразу палічыў кошт бензіну для майго падарожжа на віртуальным «BMW»...

— Ці праўда, што прыватныя машыны забіраюць на патрэбы фронту? — спытала я.

У адказ маладзён толькі пацікнуў плячыма. Ён сам асабіста не ведаў нікога, у каго адабралі б машыну... Затое ведаў як пазбегчы мабілізацыі:

— Многія хлопцы кладуцца ў бальніцу, каб там зрабілі нейкую аперацыю. Ну, прыкладова, каб сляпую кішку выразалі.

Пасля такой аперацыі даюць паўгода водпуску ад арміі.

— А я падумаў ці не пахадайнічаць за карту паляка, — заўсміхнуўся Рыгор, — бо ў мяне польскае прозвішча.

Ён да гэтай пары не цікавіўся сваім паходжаннем. Праўда, дзесьці ў сямідзясятыя гады шукала іх сям'я з Польшчы. Сувязі аднак парваліся. Рыгор, калі аднойчы быў у Польшчы, яго ўсе пыталі: «Ty, Gregory, Polak?».

— А якое ў цябе прозвішча?

— Gregory Vielogórski, — адказаў ён з той жа чароўнай усмешкай.

— Відаць, у цябе шляхецкае паходжанне, — падказала я.

Апошняя вестка зусім не зрабіла ўражання на маім субяседніку. Ён сунуў нос у свой калькулятар, каб зрахаваць нейкі чарговы віртуальны кошт падарожжа на сваім віртуальным «BMW»...

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960